«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (195), лістапад 2022 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 11 (195) (лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org/litaraturnaja_bielarus
novychas.online/tags/litaraturnaja-belarus
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

Змест





# Зямля і неба Якуба Коласа

## Да 140-годдзя з дня нараджэння

*Алесь ПАШКЕВІЧ*

Гісторыяй ім, аднагодкам — Янку Купалу і Якубу Коласу, — было наканавана стаць спарышамі-блізнятамі. Стаць «анфасам» і «профілем» беларускай літаратурнай выявы, «арлом» і «рэшкай» медаля нацыянальнага творства. Дзесяцігоддзямі літаратуразнаўства замацоўвала іх у гэтай ролі. Хоць паміж Купалам і Коласам — як паміж агнём і вадой — прамежак не ў адну стыхію-постаць. Паміж Народнымі Купалам і Коласам мог бы ўзнікнуць народны Цішка Гартны, маглі б стаяць Нацыянальныя Максімы: Багдановіч і Гарэцкі.

Але ў медаля — толькі два бакі. І калі летуценны «арол» Купала прыходзіў і прыходзіць да нас у некалькіх іпастасях («нашаніўскім», «бэнээраўскім», «бэсэсэраўскім»), Колас выглядае арганічным і «аднатварым» маналітам. Ён — найдасканалае і найтыповае выяўленне нашай нацыянальнай ментальнасці, нашых дасягненняў і хібаў, нашага і першага, і другога Я.

Якуб Колас у сусветнай літаратуры займае месца «беларускага Гамера» — стваральніка паэтычнага эпасу, найлепшымі ўзорамі якога сталі паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музы́ка». Да іх творцу вялі няпростыя, пакручастыя шляхі-дарогі.

Нарадзіўся Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч — будучы Якуб Колас — у сям'і малазямельных сялянаў. Лес і кнігі былі першымі настаўнікамі, затым — Нясвіжская настаўніцкая семінарыя «на казённы кошт». Пасля расійскамоўных вершаваных спробаў пачаў упарта пісаць па-беларуску — з адчуваннем горкай наканаванасці. «Я перажываў цяжкія горкія хвіліны горкага ўсведамлення, — прызнаваўся ён пазней, — што мае творы не будуць мець ходу і беларуская мова не будзе мець прызнання». Затым — настаўніцтва на Піншчыне, смерць бацькі. І першы «грамадскі» званок: па просьбе сялянаў склаў петыцыю да пана Скірмунта, пасля чаго губернатар загадаў арыштаваць настаўніка. Абышлося пераводам у іншае месца. А вось настаўніцкай сходкі яму не даравалі. Коласа звольнілі з працы. У яганым жыцці пачаўся шчымлівы перыяд, які ў будучым праграмаваў паводзіны і ўчынкі песняра. Жыццё на паўлегальным становішчы адукаванага інтэлігента ў братавай леснічоўцы, спробы «заваяваць» Вільню, праца ў «Нашай Ніве» і выгнанне, крыўда на жыццёвыя парадкі, на тое, што «Бог няроўна дзеліць», — усё гэта вылецца на старонкі хрэстаматыйнай Коласавай трылогіі «На ростанях». Не лепшага твора пісьменніка, у якім — асабліва ў апошняй кнізе — не толькі ў негатыве паўстае Віленскае адраджэнне, але і яганыя апосталы: браты Луцкевічы, Ластоўскі (праўда, у прататыпах)...



Фота gdetut.by

Тры наступныя гады зняволення ў Мінскім астрозе сталі для маладога Коласа гадамі сталення і «старэння». Там узнікла задума яганых лепшых твораў: паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Дагэтуль у сваіх вершах Колас паэтызаваў беларуса-селяніна, рыфмаваў матывы тугі, суму, жаху перад таямніцамі быцця, звяртаўся да палітычнай сатыры («Мікалаю II», «Канстытуцыя»), абуджаўся гімнамі:

*Я — мужык, а гонар маю,*
*Гнуся, але да пары.*
*Я маўчу, маўчу, трываю,*
*Але скора загукаю:*
*«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»*

Сваё адрозненне ад Купалы Колас-паэт выявіць у вершы «Водгулле», дзе праманіфестуе думку аб тым, што паэт павінен быць рэхам падзей. Паэт жа, паводле Купалы, — звон, які тыя падзеі прадчувае і прадвяшчае...

Колас-празаік таго часу задавольваўся бытавымі замалёўкамі, адмаўляў прыўзнятае, рамантызаванае, перадаваў характво прастаты і псіхалагічную праўду. І — спяліў сябе для большага, асноўнага: сваіх «песняў песняў».

А свет раздзіралі войны і рэвалюцыі. Колас «ужываецца» з імі. Жэніцца, у званні прапаршчыка камандуе ротай, працуе...

Вяртанне на радзіму ў 1921 годзе супала ў яго з выхадам кнігі «Казкі жыцця» — кнігі, якую ён дапісваў усё жыццё. Колас знаходзіць такія суаднасіны паміж рэальным і казачным, што алегорыі захоўваюць жыццёвую праўдападобнасць.

«Казкі жыцця» — гэта Коласаўскія мастацкія прапаведзі, якія пасля яго ў беларускім пісьменстве будзе ствараць Васіль Быкаў і называць «Байкамі жыцця».

У Беларусі, прайшоўшы выпрабавальныя лёсавыя кругі, Колас завершыць «Новую зямлю» і «Сымона-музы́ку». Дзве сістэмы касмічных каардынатаў укрыжаваліся ў гэтых творах: экзістэнцыйныя гарызанталь і вертыкаль, вектар быцця (цела, зямля) і вектар духу (душа, неба).

Колас-рэаліст і Колас-рамантык арганічна паядналіся ў гэтых паэмах. Уся Беларусь — са сваімі бедамі, радасцямі, песнямі, настроямі, думкамі, марамі, пахамі — увекавечана ў «Новай зямлі», — «старым запавеце» нацыянальнага літаратурнага летапісу. Якраз біблейскасці Коласа ў «Новай зямлі» аніяк не хацела заўважаць савецкае літаратуразнаўства. Не магло яно зразумець і Коласавага «новага запавету» — «Сымона-музы́ку».

Зямны Колас дасягнуў свайго неба.

Як і «Новая зямля», «Сымон музы́ка» надзіва аўтабіяграфічная рэч. Але тая аўтабіяграфічнасць — рамантычная, сімвалічная. Аўтабіяграфічнасць, якая і па сённія даспеўваецца нашымі паэтамі (згадайма паэму Уладзіміра Някляева «Прошча»).

Праблемы таленту і ўлады, асобы і сацыяльнага асяроддзя, нацыянальнай самасці і палітычнай явы на генетычным узроўні закадаваныя ў беларускай паэзіі — на стагоддзі ўперад:

*Гудам-звонам срэбна-медным*
*Звоняць звоны на званіцы,*
*Звоняць звоны ў час дзянніцы,*
*Надвячэр'ем ясна-бледным*
*Звоняць звоны галасныя...*
*Брацце мае, беларусы!*
*Ў страшнай кнізе людскіх спраў*
*Мусіць, сам Бог для спакусы*
*Гэты край наш адзначаў...*
*Тут на нашых станавішчах*
*Польшча білася й Літва,*
*Каб на гэтых пажарышчах*
*Узмацнялася Масква...*
*Родны край, ты разарваны,*
*Паабапал ад мяжы*
*Лях ліхі, Маскаль паганы*
*Моцна сцягваюць гужы...*
*Дык хіба ж мы праў не маем,*
*Сілы — шлях свой адзначаць,*
*І сваім уласным краем*
*Край свой родны называць?*

А пасля «Новай зямлі» і «Сымона-музы́кі» (з якой — папярэдняя цытата, адно некаторыя радкі цэнзурай перапробленыя нават у сённяшніх школьных выданнях) Коласу ўжо заставалася адно: проста быць.

Быць літаратурным патрыярхам, быць у адной асобе і Коласам, і Купалам (пасля смерці апошняга), гадаваць дзяцей і ўнукаў, прадстаўляць краіну-Беларусь, заступаца і асцерагацца.

На яганых вачах бальшавіцкай уладай знішчаліся цэлыя літаратурныя пакаленні, няволіліся і расстрэльваліся яганыя сябры. Ён дапамагаў, чым мог, а не мог, — шчыра ў тым прызнаваўся (да прыкладу, так у адным з лістоў і паведаміў вязню-драматургу Францішку Аляхновічу: «Не пішы мне болей»).

Ён закрываўся ў сваім менскім доме і ў бязбожнае ліхалецце іграў на скрыпцы ды прачула спяваў... біблейскія псалмы. А пасля гэтага мог паставіць подпіс пад нейкім падрыхтаваным для яго тэкстам — банальнай агіткай ці паклонам партыі.

І праз 140 гадоў ад свайго нараджэння Ён бачыцца зернейкам са снапа, пялёсткам з букета, іскрынай з вогнішча беларускасці, крывёю з крыві, косткай з косці тысячагадовага беларуса. І поўная разгадка, поўнае спасціжэнне Якуба Коласа — наперадзе.

*«Я ж кажу вам: добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?»* — такія словы кніжнага Хрыста ўвекавечыў наш Максім Кніжнік — Максім Багдановіч. У беларускай мастацкай спрэчцы паміж «каласамі» і «васількамі» Якуб Колас, нібыта, цалкам за першых. Аднак жа колас — гэта цэлае сукевецце...

# Надыхацца жытам

## Дзённікавыя згадкі



Алесь ЖУК

***15 кастрычніка адышоў у іншы свет адзін з самых цікавых і адметных беларускіх празаікаў Алесь ЖУК. На саракавіны з дня яго смерці публікуем гэтыя дзённікавыя запісы сярэдзіны 1980-х гадоў — як сціплую даніну ягонай памяці…***

Тыдзень адхварэў на грып, потым з'ехаў у Каралішчавічы (пісьменніцкі Дом адпачынку недалёка ад Мінска. — *Рэд.*). Міколу Гілю па патрабаванні Валеры Грышановіча даваўлося пісаць тлумачальную ў ЦК наконт публікацыі Мальдзіса і рэцэнзіі Дубаўца на кнігу Семашкевіча, хаця, як прызнаўся мне па тэлефоне, так толкам і не разумее, што хочуць, каб патлумачыў. Тут відавочная прычына, яна не ў тым, што надрукавана, а ва ўсіх трох асобах.

У Каралішчавічах старыя Улашчык, Грахоўскі і Мікола Лобан. Ён цяжка хворы. Сівенькі чубок-стрэшка, акуляры, усмешлівасць. Балоневая лёгенькая куртачка. Трэба дапамагаць яму і апрануцца і распрануцца. Прымае гэта як належнае, але дапамогі не просіць. І ўсё ж моцная чалавечая натура — трымацца, не здавацца: перад люстрам дрыжачаю рукою папраўляе свой сівы чубок перад тым, як зайсці да людзей у сталоўку. Здаецца, зусім нядаўна гойсаў з намі на многа маладзейшымі па каралішчавіцкай лыжні.

Юбілейны вечар Гогаля. Пра тое, як праходзіў, варта пяра самога Мікалая Васільевіча. Вечар рыхтаваў Дом літаратара як шараговае мерапрыемства.

Але ў ЦК даведаліся, што вечар у Кіеве праводзяць як вялікае мерапрыемства, з прысутнасцю палітбюро Украіны. Таму ў нас на вечары будзе А. Т. Кузьмін (сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі. — *Рэд.*) і Н. Л. Сняжкова (намесніца Старшыні Савета міністраў БССР. — *Рэд.*). Дадзена аўральная каманда студэнтамі запоўніць залу. Пісьменнікаў амаль нікога, не прыйшлі рэдактары выданняў — не ведалі пра прысутнасць высокага начальства. Адным словам, вадэвіль з чынамі і падчынкамі.

Пазваніў Кузьмін — к пяці гадзінам быць у яго. Кабінет поўны людзей, нарада па дому 28 на Інтэрнацыянальнай. Гэта былы дом купца Саламонава, дзе ўпершыню была пастаўлена «Сялянка» Дуніна-Марцінкевіча. Гэтую пастаноўку тэатразнаўцы лічаць пачаткам нацыянальнага беларускага тэатра. Быў пачаты рамонт дома, у час якога абвалілася сцяна. Збіраюцца разбурыць яго зусім, бо падмурак слабы, бутавы, аднаўленне будзе дорага каштаваць і г. д. Аргументаваў усё гэта галоўны архітэктар Грыгор'еў, нават нейкія выпіскі з архіваў прыводзіў. Яго падтрымлівае партыйны сакратар горада Валерый Пячэннікаў, яшчэ адзін «гарадскі галава». Нават патрабуюць спагнання на аўтараў артыкула «Выбух» Дзянісава і Пазьняка, які быў надрукаваны ў «ЛіМе» (А. Жук у той час быў яго галоўным рэдактарам. — *Рэд.*). І Дзянісаў, і Пазьняк, і Мальдзіс, і нават заўсёды паслухмяны міністр культуры Міхневіч за тое, што дом трэба захаваць. Антановіч (загадчык аддзела культуры ЦК КПБ. — *Рэд.*) са сваімі філасофскімі вывертамі спрабуе збіць з тропу Мальдзіса, маўляў, калі тэатр месціўся ўвесь час у ратушы і толькі нейкага паўгода ў доме купца Саламонава, то дом нельга лічыць помнікавым. Сняжкова гнула сваю лінію: шмат робіцца па захаванні культурнай спадчыны, гэтага ніхто не хоча бачыць, а з-за асобных выпадкаў падымаецца непатрэбны гвалт. Маецца на ўвазе «Выбух», публікацыя пра стан помнікаў у Віцебску. Праўда, прызнала, што там прарэзгуюць на яе.

Як і прынята ў нас, будзе створана камісія, якая праверыць і сапраўднасць здымкаў Дзянісава, усе астатнія акалічнасці.

Улады на баку Грыгор'ева, на сумленні якога разбурэнне Нямігі. Што яму яшчэ нейкі дом Саламонава, калі і гарадское начальства не супраць мець на гэтым месцы шкло-бетонны «слупок» з сучаснымі кабінетамі для чыноўнікаў? Пакуль тыя камісіі будуць засядаць, узгадняць, дом паціху развaліцца сам па сабе ці ўціхара і дапамогуць. Паднятая хваля абурэння інтэлігенцыі таксама заціхне.

Пасля нарады Антановіч выгаворваў мне, што без іх ведама надрукаваў артыкул, чым падняў цэлую хвалю, цяпер шукаюць арганізатараў калектыўнага пісьма студэнтаў, і ўвогуле аўтары артыкула мелі на ўвазе не абарону нейкага яўрэйскага дома, а ідэалагічна-правакацыйныя мэты. Гэты «Выбух» мне прыпомняць яшчэ не адзін раз.

Новая прыгода. Супрацоўнік аддзела прапаганды ЦК З. выклікаў да сябе Валодзю Марука, які працуе ў газеце «Звязда», і катэгарычна патрабаваў заўтра ж прынесці рэпліку на публікацыю вершаў у «ЛіМе» Валянціны Коўтун паўгадовай даўнасці за тое, што там часта сустракаюцца словы «крыж», «свечка» і г. д. Адным словам — царкоўшчына, папоўшчына і суцэльнае цемрашальства. Марук пісаць пра гэта адмовіўся, прыйшоў і расказаў мне. У той жа дзень З. выклікаў і мяне да сябе. Паказаў выразку з газеты, пакрэсленую чорнай ручкай. Запатрабаваў тлумачальную, якую я прынёс яму назаўтра. Напісаў, што словы ўжываюцца не ў культавым сэнсе, што вершы лірычныя самі па сабе, інтымныя і ніякага там цемрашальства няма. Шкода, што панёс сам, трэба было пасылаць па пошце. У гаворцы З. глыбокасэнсоўна намякнуў, што не можа сказаць, адкуль усё ідзе. Я і так ведаю, што ў першую чаргу ад ягонага шэфа Савелія Паўлава (загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. — *Рэд.*), калі і не ад самога З. Тым не меней, той жа З. зноў выклікаў Марука да сябе і пагражаў выключэннем з партыі, што выжануць з работы і выкінуць назад у «раёнку», бо ён не меў права расказваць пра гэты «наезд» Сяргею Законнікаву. Марук агрызнуўся: а чаму З. не заўважыў аналагічныя вершы Коўтун у часопісе «Беларусь», якія былі надрукаваны адразу ж за артыкулам самога З.?

Урэшце ўся гэтая тузаніна з публікацыяй у «Звяздзе» была спынена А. Т. Кузьміным, які палічыў непатрэбным мець лішнія згрызоты з творчай інтэлігенцыяй.

Пасля гэтага Савелій Паўлаў пазваніў Сяргею Законнікаву: калі яшчэ раз станеш на маёй дарозе, я табе хрыбет зламлю, не такім ламалі, крывёю будзеш харкаць.

Пазаўчора выклік у ЦК да Івана Іванавіча Антановіча. Па даручэнні Аляксандра Трыфанавіча Кузьміна вёў гаворку пра тое, каб лішне не лез, не нарываўся на пытанні помнікаў, мовы, некаторых пытанняў гісторыі і г. д.

Гаворка спакойная, без наездаў, у пажадальным плане, без канкрэтных спасылак і зачэпак. Хаця зачэпка вядомая: артыкул Дзянісава і Пазьняка «Выбух» пра лёс будынка, дзе ўпершыню была пастаўленая «Сялянка». Артыкул атрымаў рэзананс.

А перад гэтым званіў намеснік Паўлава Гаўрыіл Міхайлавіч Конанаў. Сказаць і намесніку, і супрацоўнікам, каб пазбягалі друкавання Дубаўца, Вячоркі… Сказаў, што «ёсць думка зачыніць друк для маладых нацыяналістаў».

З панядзелка захаладала, хаця яшчэ са́ма жнівень. Паўночна-заходні вецер, неба ў хмарах. Непрыемныя халодныя дажджы, якія сіноптыкі называюць кароткачасовымі. Жаўцізна на бярозах, на ліпах. Гэта не ад восені, ад сухаты.

Бяруць лён. Авёс гатовы. Канюшына даспявае на насенне. Ажно не верыцца, што нейкі тыдзень назад было Палессе. Добрых дзесяць дзён гарачыні нават у цяні. Белы пясочак на беразе Случы перад упадзеннем яе ў Прыпяць, падмыты павадкам дуб у вадзе, раскошная дубрава. Быў з малым Алёшкам. Летняя раскоша, рыбалка. Хаця тут, у Віці Казьковай Вільчы, Случ не на многа шырэйшая, чым памятаю яе дзіцем у Слуцку. Там, у Вільчы, не адчуваў бяссоння, а вярнуўся дадому і зноў пачынаю трызніць, а не спаць.

У другой палавіне ночы пайшоў дождж, густы, спорны. Ляжаў і слухаў дождж. Жнівень. Восень. Туман. Іржышча. Мая пара. Не стае душэўнай раўнавагі.

Звечара чытаў дзявяты том Мележа. Ужо вядомае мне ў асноўным. У дзённіках ніякай дробязнасці. Балючыя думкі за літаратуру, культуру. Бачыў і адчуваў, як хвароба мяшчанства раз'ядае людскія душы.

Горка ўяўляю, што і ў асабістым жыцці ён быў адзінокі. Недзе ў глыбіні душы адчуваў і разумеў патрэбнасць робленай ім работы, што ніхто не збярэ і не выдасць яго «Жыццёвыя клопаты» без яго. А «разумныя» асуджалі, што падчышчае астаткі пісанага, выдаўцы чынілі перашкоды і «ўразалі», а развязка была ўжо зусім блізка… Ад Мележа думкі перакідваюцца на Караткевіча…

Пераглядаў «Былое і думы» Герцана, якога высока цаню як пісьменніка. Усё ж ён быў рэвалюцыянер ад забяспечанага жыцця. «Деньги — независимость, сила, оружие. А оружие никто не бросает во время войны, хотя бы оно было и неприятельское, даже ржавое. Рабство нищеты страшно, я изучил его во всех видах, живя годы с людьми, которые спаслись в чем были от политических караблекрушений. Поэтому я считал справедливым и необходимым принять все меры, чтобы вырвать что можно из медвежьих лап русского правительства».

Пазаўчора мароз ад трыццаці за ноч скінуўся да плюсавой тэмпературы, пайшоў такі густы снег, як фіранку з марлі павесілі.

Учора нарада ў Кузьміна. Ініцыятар Паўлаў. Сутнасць яго выступлення ў тым, што рэдактарам трэба быць уважлівымі, каб крытыка не пераходзіла межы і не давала падстаў каментатарам радыёстанцыі «Свабода». А калі каменціруюць, то гэта ўжо мінус у рабоце рэдакцый, не хапае пільнасці і чуцця. І яшчэ — барані Божа мусіраваць тэму, што беларускае лепшае за рускае, ці тым больш падымаць на шчыт старажытнасць Беларусі і яе перавагі над масковіяй.

У Паўлава хвора, неяк аж расшырана блішчаць вочы.

Перад выхаднымі званок з ЦК таго ж З.: вось вы далі інфармацыю пра вечар эсперантыстаў, яны там свой гімн спявалі, а гімн у нас адзін, а кіраунік іхні сіяніст замаскаваны. Аказваецца, у Доме культуры будтрэста беларускае таварыства эсперантыстаў, якое афіцыйна існуе пры палацы Белсаўпрофа, правяло ўрачысты вечар да юбілею стварэння эсперанта. Яны маюць свой ВІА, на мове эсперанта і свой гімн саспявалі. Аўрал, крамола. Ну няхай жывуць гэтыя эсперантысты, ды не думаю, што іх і разганяць будуць. А вось жа начальнікі ад друку «бдзяць», вышукваюць. І рэдактару «Вячоркі» перапала…

Сяджу ў Каралішчавічах, зімна, снежна, бязлюдна. Тут Авяр'ян Сафронавіч Дзеружынскі, які называе сябе «князем Каралішчавіцкім», бо сядзіць усё тут амаль паўгода. Стары Мікола Улашчык прыехаў з Масквы, піша кнігу пра сваю родную вёску, яшчэ ёсць Люба Турбіна з сястрой. Вось і ўвесь кантынгент. Ці не апошні гэта каралішчавіцкі сезон? Няма лыжні, няма і лыжаў. Ходзім на прагулкі з Улашчыкам, Мікалай Мікалаевіч расказвае ўспаміны, а я слухаю…

Яшчэ ўспамін пра невядомага мне акадэміка Сямёна Вальфсона. Ён, будучы прафесарам, працаваў у БДУ, потым у наркамаце асветы. З-за невялікага росту яго завочна звалі Сёмачкам. Прынцыпова не гаварыў ні слова па-беларуску.

Да яго на прыём прабіўся настаўнік са Строчыцаў. Граміла, твар губаты, бандыцкі. Маленькі Сёмачка за сталом. Настаўнік тлумачыць: сшыткаў няма, падручнікаў няма, алоўкаў няма. Сёмачка — няма і не будзе. Настаўнік падняўся, за ножку крэсла — і аб сцяну. Сёмачка пад стол. Крэсла рассыпалася на кавалкі. Сёмачка вылез з-пад стала:

— Ну что вы такой нервный? Мы с вами можем договориться.

Настаўнік атрымаў запіску і потым усё патрэбнае на складзе. У трыццатыя гады Сёмачка пачаў пісаць «куды трэба», пайшоў у акадэміі навук угору па службовай лесвіцы, стаў і акадэмікам.

Калі пачалася вайна, з усім назбіраным дабром вырашыў падацца ў эвакуацыю самастойна. Наняў фурманку, напакаваў яе куфэркамі і разам з жонкаю рушыў у дарогу. Дзесьці за Смалявічамі з'ехаў у лясок перачакаць. І адтуль больш не выехаў, і ніхто яго больш не бачыў. Відаць, кінулася некаму ў вочы дабротна напакаваная фурманка.



Алесь Жук, Алесь Траяноўскі і Яўген Лецка. 1970-я гады. Фота Анатоля Кудраўца

Заканчэнне на стар. 3 »

# Надыхацца жытам

## Дзённікавыя згадкі

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2

Над лесавою дарогаю ад вялікага снегу амаль да долу нахілены вяршынямі маладыя бярозкі, ідзеш як скрозь тунэль. Гэтыя дрэвы не разагнуцца болей. Верхнія галіны пачнуць цягнуцца ўгору, кожная маючы сябе за дрэва, і сваім цяжарам абарвуць карэнне і пакладуць ствалы на зямлю, і прападзе гэты гаёк без свайго карэння.

Падумалася і пра нас саміх, якія пішам і мкнем у неба вечнасці і ў класікі, амаль не маючы карэння.

Зноў чарговы тарарам. На першай паласе далі здымак скульптуры Шатэрніка «Векапомнае»: жанчына-славянка з мячом, які апушчаны ўніз вастрыём, глядзіць у далячынь. На ручцы мяча белая галубка.

Намесніца загадчыка культуры Паўла Пятроўна Украінец на Міколу Гіля (у той час намеснік галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і Мастацтва». — Рэд.) ажно нагамі тупала: «Навошта на першую паласу далі гэтую Рагнеду?!». Аказваецца, скульптура спачатку называлася «Рагнеда», яе мастакі нават хацелі паставіць у Заслаўі. Вядома ж, ім гэтага не дазволілі. Цяпер са змененай назвай скульптура трапіла на выстаўку «Мы будуем камунізм».

Званілі яшчэ і чыноўнікі з міністэрства, і з таго ж аддзела культуры ЦК.

У іх цяпер ужо ад перпалоху за свае пасады імя Рагнеды гучыць як лаянка.

Марозік ноччу пад пятнаццаць. Удзень сонечна, марозік лёгкі. Сонца нават прыгравае ў зацішку. Вечарам неба чыстае, зялёнае, а ноччу густое і зорнае. Лёгка можна чытаць сузор'і, якія я ўжо пачынаю забываць. Каб памятаць сузор'і, на неба трэба глядзець пастаянна.

Учора ў ашчаднай касе сустрэў жонку Кулакоўскага. Перааформляла на сябе ўклад. Даверанасць падпісана галоўурачом, напісана рукой лечачага доктара. На выхадзе спытаўся ў яе, як Аляксей Мікалаевіч. Адказала горка і коратка — інсульт.

А за тыдні два бачыў яго. Стаяў у скверыку перад домам. Вечарэла, сонца і марозік, вада на ноч пачала падмярзаць на тратуары. Пагаварылі пра рэцэнзію на яго, якую Шамякін усё не можа напісаць. Дапамог перайсці яму цераз лядок да сухога тратуара. Саромеўся дапамогі, але не адмовіўся. Падтрымка яму была патрэбна. Пакуль гаварылі ўжо на тратуары, спрабаваў адзець пальчатку на руку — і не мог. Правая рука ўжо тады валодала дрэнна. Зноў жа з сарамлівай пакорлівасцю згадзіўся, каб адзеў пальчатку на руку. Каб правеў дадому, адмовіўся, сам дойдзе, настаяць яшчэ на паветры хочацца. А адвячорак быў малады, вясновы, нават святочны.

Чамусьці тады згадаў, як Іван Пятровіч Шамякін расказваў, што чытачы востра ўспрымалі вобраз Бародкі з яго рамана «Крыніцы». Вобраз гэты адышоў у нябыт хуткім часам, як і сам той раман. На «Дабрасельцаў» Кулакоўскага рэагавалі па-іншаму: з рэдактарскай пасады знялі, кнігай выдаваць аповесць забаранілі, пісьменніцкі хрыбетнік чалавеку зламалі...

Прайшоў пісьменніцкі з'езд з нееспадзяваным вынікам для мяне. На другі дзень, калі я збіраўся пасля галасавання пад'ехаць у рэдакцыю падпісаць да друку палосы, у пакойчыку для прэзідыума затрымаў Кузьмін. Прыселі да невялікага століка, закурылі.

— Жук, пойдёшь секретарём Союза.

— Аляксандр Трыфанавіч, у мяне і свае каламуты хапае, — толькі і знайшоўся адказаць.

— Ну, тут пожиже будет, да и не совсем твоя.

У пакойчыку недарэчы з'явілася Паўла Пятроўна Украінец. Кузьмін устаў, патушыў цыгарэту.

— Ну, так как?

— Калі на пленуме будзе названа мая кандыдатура, у хамут біць не стану.

А я то ведаў, што перад гэтым гаворка папярэдняя ў ЦК была з некалькімі чалавекамі, болей таго, пагаворвалі, што некаторым з іх пасада нават была і паабяцана і яны чакаюць яе. Добра, што хоць мяне ні на якія гутаркі не цягалі, і я свабодна нават і ў гэты дзень з сябрамі пацягваў шампанскае, мог і мацнейшае, але непадпісаная газета не дазваляла.

Арганізацыйны пленум Саюза вёў А. Т. Кузьмін. І кандыдатура мая была названа і пленумам зацверджана.

Ужо ў новым статусе трэба было вячэраць з пасланцамі на з'езд ад кіраўніцтва СП СССР. Потым праводзіць іх да цягніка.

З нейкай палёгкай думаецца, што не трэба будзе хадзіць у тыя знаёмыя калідоры, у той кабінет, пісаць тлумачальныя наконт «нацыяналізму»...

Скончыўся нейкі адрэзак у маім жыцці.

Сонечнае маладое лета. І непрыемнае адчуванне, што ўсё навокал атручана. На старонках усесаюзнай прэсы найперш ці ў Маскве не трапляе ў страву радыяцыя. Тэма раскручваецца на поўным сур'ёзе. Пра засыпаную радыяцыяй Беларусь ні слова. Напісалі з радасцю, што, слава Богу, вецер тады дзьмуў не на Маскву, а на Беларусь. І чаго хвалююцца? На крамлёўскія сталы радыяцыя не трапіць. Там посуд мыюць нават не хіміяй, а гарчычным парашком.

У Маскве памерла Канстанцыя Буйло. Легенда беларускай літаратуры, чалавек яшчэ з дзевятнаццатага стагоддзя. І няма каму з нашых тытулаваных у паэзіі паехаць і сказаць слова над магілай. Знайшлася добрая і адкрытая душа — Мікола Федзюковіч. Ён не забыўся, што, жывучы ў Маскве, заходзіў да яе і яна яго прывячала.

У шостым нумары «Маладосці»толькі зараз прачытаў мудры верш Ніны Мацяш «Засцярога». З горычу падумаў — як наша крытыка не ўмее падхапіць такое золата і вынесці, данесці да чытача, бо народ не можа зрабіць гэта сам ад непавагі да сваёй мовы.

Другі дзень ідзе даўно патрэбны дождж пад бульбу, якая пачынае зацвітаць. Ячмень засвятлеў вусам, а знізу яшчэ і зялёнае прагляддае. На пагорках ён бедны, амаль зусім спелы. Жытнёвае поле адно амаль усё жоўтае, а другое зялёнае яшчэ. І адно і другое патапталі дажджы і вятры, быццам хмары пакачаліся з боку на бок па палетках. Пшаніца на пагорках абазначылася амаль спелым зернем, у лагах зялёная яшчэ. Наогул палі, калі зірнуць на іх зверху, падобныя на акварэлі з няўлоўнымі пераходамі колераў і адценняў, якія мяняюцца пры самым лёгкім павеве ветру. Хутка яны будуць гатовы легчы пад жаткі камбайнаў, ад іх застанецца толькі іржышча, а потым і асенняе ворыва. Даспявае лета.

Пяцідзесяцігадовы юбілейны вечар Бураўкіна ў Віцебску, поўная зала людзей, удзячная, уважлівая. Добрае неказённае слова сакратара Расонскага райкама. Святочна і нават крыху пышна. Потым вячэра ў рэстаране, музыка, песні. Барадулін развесяліўся, станцаваў польку з артысткамі, а потым і «Лявоніху»...

Назаўтра зранку дарога на Мінск. Туман за самыя Бешанковічы, спыніліся ў лесе, на беразе азерца. Быкаў маўклівы і задумёны, амаль не прымаў удзелу ў снеданні, абмежаваўся толькі франтавой чарачкай, карміў з рук паляўнічага сабаку, які прыблукаў к нам. На памяць засталіся здымкі



Фота vnis.com

Уладзіміра Крука. А за Бярэзінскім запаведнікам выглянула сонца, і на лагойскіх пагорках такая залатая восень адкрылася! Уздых Васіля Уладзіміравіча і ўслых ціха сказаныя самому сабе словы: «Осень, ты которая в жизни моей?». Само сабой вырвалася аднекуль з душы. Я сядзеў ціхенька, баючыся патрывожыць яго сумоту.

Перад Мінскам заехалі ў «Партызанскі Бор» паснедаць. Там афіцыянткі пазналі Васіля Уладзіміравіча, частавалі нейкім сваім фірменным напіткам, зробленым на мёдзе і на травах. І Васіль Уладзіміравіч пакрысе павесялеў, пачаў расказваць пра гродненскія прыгоды Піліпа Пестрака, Аляксея Карпюка. Расказваў весела, добразычліва, ужо і на вуліцы, на прыдарожнай абочыне, пад цёплым восеньскім сонцам. Потым змоўк і нечакана сказаў, што ёсць адчуванне: быццам некага не хапае тут з намі. Прымоўклі, кожны падумаў пра сваё, я пра суседзяў па адным доме — Караткевіча і Семашкевіча... Потым нібы каб згладзіць гэтую хвілінку, Васіль Уладзіміравіч пачаў расказваць, як ляцеў па гэтай дарозе праз Бараўляны на сваё «Волзе», у якой сапсаваўся карбюратар, перагрэты матор не глохнуў і пры выключаным запальванні, тармазамі спыніць машыну не ўдавалася... Пры гэтым прызнаваўся, хто вадзіцель з яго наогул быў «ахавы», таму ўрэшце ён і адмовіўся ездзіць на машыне.

Сёння са мной сыгралі харошы спектакль. Пазваніў Валера Скварцоў і сказаў, што ёсць даручэнне схадзіць на ўрачыстасць да 50-годдзя філармоніі. У сем гадзін іду ў філармонію з адрасам і з кветкамі, сяджу ў прэзідыуме. Але мне ніхто і не збіраўся слова даваць і мае віншаванні слухаць. Выйшаў з прэзідыума пасля ўрачыстай часткі і не ведаў, куды тыя кветкі дзець і адрас. Пакінуў у фае на століку разам з іншымі адрасамі — не адзін я такі аказаўся.

І смех, і грэх, і нават ніякай злосці за змарнаваны вечар.

Бондар збірае подпісы пад пісьмом у ЦК, дзе громіць кіраўніцтва Саюза за бяздзейнасць. Больш актуальнай тэмы няма, чым унутраныя разборкі. Ні з мовай няма, ні з выданнем кніг, ні з тыражамі часопісаў — ад чаго непасрэдна залежыць развіццё літаратуры.

У сувязі з гэтым згадваецца шляхта, якая сеймікавала і тады, калі ўжо нават не было чым голы зад прыкрыць. Але ў шляхты хоць шабелькі яшчэ заставаліся, а на нашых літаратурных сейміках давядзецца толькі бабскімі спадніцамі махаць. Хаця, калі ёсць «спадніцы», то да іх і прыспадніснікі знойдуцца.

Пісаць для народа... А дзе той народ і што напісаць для яго такое, каб змог схамянуцца, на сябе аглянуцца? Яго нават Чарнобыль не схамянуў. Насельніцтва — гусі дамашнія, якім хоць нешта, але ў карытца будзе насыпана. А з'явіся ў гэтай чарадзе дзікі, лятучы, самі заклююць і абскубуць, каб лётаць не мог.

На стале абвестка на партыйны сход. Першы пункт «Аб пераадоленні інертных з'яў у сучасным літаратурным працэсе». (Дакладчык доктар філалагічных навук П. Дзюбайла).

Гучыць як пародыя не толькі на сам партыйны сход, але і на ўсю аб'яўленую ў краіне перабудову.

Вецер. Мароз. Бясснежжа. Але, відаць, надвор'е будзе мяняцца, таму адчуваю сябе разбітым, стомленым. Учора зранку ездзіў запісваца на тэлебачанні, потым да вечара сядзеў на рабоце. Пачаў крыху адыходзіць толькі цяпер, к гадзінам адзінаццаць вечара.

Учора пазваніла жонка Мележа наконт выдання збору твораў Івана Паўлавіча ў Маскве. Аказалася, што там ніхто нічога не плануе, нават і пра пісьмо з нашага Саюза аб выданні збору твораў у Маскве быццам чуюць упершыню.

Усё ж удалося высветліць, што рыхтуецца да выдання шасцітомнік Шамякіна. Нават яго ніякіх пісем не пісалася. Нябожчык можа пачакаць і да наступнай пяцігодкі. Пазвоніць яшчэ раз Лідзія Якаўлеўна — што і як гаварыць ёй?

Гілевіча выклікалі «наверх». Вярнуўся і даў каманду назаўтра сабраць прэзідыум. На прэзідыум прыбыў загадчык аддзела культуры ЦК Яўген Вайтовіч і Анатоль Бутэвіч. Кастусь Кірэенка патрабуе растлумачыць — з-за чаго гэты аўральны збор? Калі наконт заявы Віктара Казька аб яго вызваленні ад пасады сакратара — то гэта рабочае пытанне.

І кола закруцілася. Ці ёсць у ЦК пісьмо, якое арганізоўвала Таіса Бондар? Пісьмо ёсць. Патрабуюць зачытаць яго. Зачытваюць. Там паўстароначкі машынапіснага тэкста з агульнымі абвінавачваннямі і чалавек пятнаццаць падпісантаў. Я звярнуў увагу, што на пісьме няма штэмпеля агульнага аддзела ЦК, значыць, яно не зарэгістравана, а таму фількіна грамата.

Шамякін не адстае ад Ніла Сымонавіча: «Ніл, дык ты ж падаваў дзве заявы, каб цябе вызвалілі ад пасады. Дзе яны?».

— Ну няма іх больш, Іван Пятровіч. Паклікалі наверх і сказалі, што мне яшчэ трэба папрацаваць. І я працую.

— Дык як жа так, га? — шчыра вырвалася ў Івана Пятровіча.

І так валтузіліся некалькі гадзін, урэшце вырашылі, што нечарговы пленум збіраць не патрэбна, а на чарговым абмеркаваць работу сакратарыята па выкананні рашэнняў пісьменніцкага з'езда. А тое пісьмо ў ЦК неяк само сабой выпала ў асадак. Адным словам — перабудова ў дзеянні.

Пахаванне Кастуся Кірэенкі ў Саюзе пісьменнікаў, у камінным зале. Ён з твару чысты, не змучаны доўгай хваробай і цяжкай канчынай. Генадзь Бураўкін расказаў, што ён пазваніў на радыё, папрасіў запісацца без чаргі, тлумачыў, што ідзе ў бальніцу класціся, што можа не ўспець. Прыехаў, запісаўся — і па дарозе са студыі ў машыне яго і не стала. Гавораць, што доктар не адпускала з кабінета, прымушала легчы. Не лёг. На пахаванні сына яго старэнькая маці...

На агульным сходзе вылучэнне кандыдатуры ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР ад нашага Саюза пісьменнікаў.

Брыль сваю кандыдатуру зняў адным сказам:

— Таварышы, хоць я і стары ўжо, але ж яшчэ не страціў адчування гумару.

Ехаў дадому і не мог надыхацца пахам жыта праз адчыненае акно машыны. Думаў, што пайду ў поле, надыхаюся, і перастане балець у грудзях.

А ноччу навальніца, потым лівень, і назаўтра ўвесь дзень дождж. І ніякіх пахаў, толькі мокры пах дажджу, ды яшчэ і не па-летняму халоднага.

***Сярэдзіна 1980-х гадоў.***

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

# Пустка



Міхась ЗІЗЮК

Збочыўшы з шэрай, як нежывой, вясковай гравійкі, запыленая белая маршрутка спынілася на аўтобусным прыпынку. Бадай што прыпынак нядаўна зведаў касметычны рамонт: пабеленыя сцены, падпраўленая дахоўка, пафарбаваная лава, новая таблічка з надпісам «Залужжа» і раскладам руху аўтобусаў. З маршруткі выйшаў толькі адзін пасажыр. Сярэдняга росту, хударлявы, з вялікімі лобнымі залысінамі і пасівелымі скронямі, непаголеным тварам і чырвоным пісягом шнара на левай шчацэ. Ён паставіў на лаву сваю валізку з надпісам «Adidas», выцягнуў з кішэні пакамечаных, не першай свежасці джынсаў папяросы, закурыў. Пусціў колца дыму, агледзеў ваколіцу.

Прыпынак месціўся за вёскаю, сама вёска — доўгая, у адну вуліцу — распрасцерлася за невялічкім лужком і старою канаваю, парослай густою травой. Да вёскі цягнулася звычайная дарога: з ямамі ад калюг, што павысыхалі за спякотнае лета, і палеглай няскошанай травой паабапал. На ўездзе гасцей сустракалі дзве высозныя старыя таполі. Незнаёмец шпурлянуў недакурак і рашуча пакрочыў да вёскі. Па вуліцы ішоў павольна, нетаропка разглядаючы хаты. Пабудовы выглядалі па-рознаму: месцамі дагледжаныя, жывыя, дзе й не вельмі, а траплялiся і зусім занядбаныя, з палеглымі платамі ды надворкамі, што даўно не бачылі касы.

Часам незнаёмец прыпыняўся, доўга разглядаў невялікія пусткі ад тых хат, што знеслі бульдозерам, назаўсёды пахаваўшы іх у родную зямлю. Азіраўся, цёр скроні, нешта няўцямна мармытаў сам сабе пад нос, а пасля крочыў далей. Каля адной з пустак ён паставіў валізку на траву і агледзеў суседнія хаты.

Было зразумела, што там даўно ніхто не жыве, у адной нават вывалілася некалькі цаглін з коміна. А вось хата насупраць усім сваім выглядам паказвала, што яна яшчэ жыве: праз шкло свежападфарбаваных у цёмна-зялёны колер вокнаў свяціліся белыя фіранкі, каля калодзежа стаялі вёдры, напоўненыя вадою, па двары сноўдаліся куры, а каля ганка ляжаў руды кот. Незнаёмец знясілена апусціўся на траву.

Яго заўважылі з хаты насупраць. На вуліцу выйшаў невысокі паўнаваты мужчына з ружовым спітым тварам у паліналай сіняй цішотцы з надпісам на спіне «I'm dirty». І, насамрэч, выглядаў ён не надта ахайна. Спачатку вясковец паўглядаўся ў незнаёмца праз веснікі, пасля асцярожна прыадчыніў іх, выйшаў на вуліцу. Незнаёмец не варухнуўся.

— Здрасьце. Шукаеце каго?

— Можа, і шукаю. А табе што да гэтага? — прыхадзень нехаця павярнуў галаву.

— Дык я, гэта, проста спытаць. Бачу, чалавек ходзіць, я і… — пачаў было круглатвары, але раптам змоўк. Нейкае імгненне ён угледаўся ў суразмоўцу, пасля яго твар ажывіўся, вочы радасна заблішчалі, нібы ён сустрэў блізкага чалавека:

— Пецька?! Ты?!

— Я.

— Кірдык тваю туды, ты! А я думаю, хто гэта тут топчацца каторую хвіліну. Пецька, вось дык сюрпрыз! Што, суседа не пазнаеш?

Прыхадзень узняўся.

— Вася? Вася Кірдык?!

— Ну, я, а хто ж. Ну, здароў.

Пецька зрабіў крок наперад, і мужчыны нерашуча, як бы саромеючыся нечага, абняліся.

— Гэта ж трэба — Пецька, Пецька Гамановіч! Столькі гадоў ні слыху, ні дыху — а тут на табе. Кірдык тваю туды, дзе ж ты быў, га?

— Лепш сказаць, дзе не быў, — адрэзаў Пеця. — Ты мне вось што скажы: дзе мая хата, хлявы, маці дзе? Што ў вас тут робіцца? Іду, гляджу, а некаторыя хаты — як карова языком злізала. Пажар быў?

— Ды не, які пажар, ты што… — Вася махнуў рукою. — Гэта ж усё сельсавет. Там, дзе ніхто не жыве і нікога з радні не могуць адшукаць, то тыя хаты яны пад нож, пад бульдозер, кірдык яго туды. Бо, маўляў, хаты разбураюцца, іх ніхто не глядзіць, ад іх небяспека, дый выгляд псуюць. Таму лепш закапаць. Вось так у нас робіцца.

Пеця спахмурнеў, азірнуўся на сваё былое паселішча.

— А дзе маці?

— Дык, гэта… — замахаў рукамі Вася, — гадоў з сем няма яе. Анкалогія, кірдык яе туды. Папамучылася цётка Ніна, цябе чакала ўсё, але ж не дачакалася, выходзіць. Лістоў ад цябе даўно не было, на твой апошні адрас тэлеграму адбілі, толькі адтуль аніякага адказа. Пляменніца, сястра твая стрыечная, Юлька, што ў Маскве жыве, на пахаванне паспела, стала быць. А ад хаты, кірдык яе туды, адмовілася: навошта, кажа, мне трухля гэтая, я сюды ездзіць усё роўна не буду. Ты не аб'яўляўся, дык Ермаковіч і загадаў знесці: тваю і яшчэ некалькі гэткіх.

— Які Ермаковіч?

— Ну Колька Ермаковіч, што сельсаветам кіруе. Мо ты й не памятаеш яго — ён гадоў на пяць маладзейшы за нас, яго бацькі жылі за млынам.

— І што — вось так проста спляжылі хату?

— У адзін момант, кірдык яго туды, — Вася замахаў рукамі. — Трактар прыехаў, шах-мах — гатова. Маці мая аж заплакала: трэба ж, селішча пад нож. Эх!

Вася змоўк. Наструнены Гамановіч нейкі час таксама стаяў моўчкі, пасля, падхапіўшы валізку, звярнуўся да Васі:

— Каля бацькі пахавалі?

— Дык само сабой. Хочаш — пайшлі разам. Толькі пакінь сваю торбу, навошта яе цягаць з сабою. Пайшлі да нас. Во маці ўзрадуецца — сусед жывы аб'явіўся. Пайшлі.

Рыпнулі дзверы ў хаце. Пеця паставіў валізку і коратка павітаўся:

— Добры дзень, цётка Галя.

Жанчына, слепавата моргаючы, утаропілася ў госця.

— Што, не пазнала? Ага, я таксама не адразу пазнаў, кірдык яго туды. Пецька Гамановіч, сусед. Ну, бач, вярнуўся, а хаты няма. А я гляджу, нехта ходзіць, — Васю было не спыніць. — Мы на могілкі сходзім. Дык гэта, мама, трэба ж госця прыняць. Значыць, бутэлька на стол.

— Сціхні ты, апівуда, абрыд ужо з гэтымі п'янкамі, — абурана адазвалася жанчына. Усхліпнуўшы, дадала:



Фота supron-licvin

— Не дачакалася Ніначка цябе, бедненькая. Думала, прыедзеш, жывою яе пабачыш. Гэтак чакала, гэтак чакала — усе слёзы выплакала. А яно як атрымалася… Ох, бяда. Дзе ж ты быў, Пецечка? Чаму не адзываўся?

— Доўга расказваць, цётка Галя. Што было, таго не вернеш. Нічога, я не буду вам замінаць. Схаджу на могілкі і паеду назад.

— Куды ты паедзеш? — запярэчыў Вася. — Маршрутка, кірдык яе туды, толькі раз на дзень ходзіць. Пераначуй, а там ужо вырашыш, куды табе падацца. Ці не так, мама?

— Так, так, — пагадзілася жанчына, — заставайся, Пеця, не на вуліцы ж табе ночыць.

— Пайшлі, — пацягнуў Гамановіча за руку Вася, — маці нам пакуль стол падрыхтуе, пасядзім.

Двое ішлі па вуліцы. Адзін нешта ажыўлена балбатаў, радуючыся хуткай выпіўцы, другі ступаў моўчкі, паглыблены ў свае думкі.

Могілкі знаходзіліся побач з вёскаю. Месца ўтульнае: на невялічкім пясчаным пагорку, сярод гонкіх смалістых сосен. Вёска здаўна хавала там сваіх.

…У школе Пеця Гамановіч нічым асабліва не вызначаўся: зорак з неба не хапаў, але і ў двоечніках не хадзіў. Калі вучыўся ў дзявятым класе, раптоўна памёр бацька. Маці бедавала, што няма ў хаце цвёрдай мужчынскай рукі. Толькі ці ў руцэ справа, што ён разам з двума сябрамі ў дзясятым класе скраў машыну? Гэта гучна сказана — скраў. Хлопцам не хацелася ісці пехам у суседнюю вёску на дыскатэку. Пеця прапанаваў сябрам узяць машыну ў агранома: стаіць за хлявом, а дзе ключы ляжаць, ён ведае. Пасля паставяць. І ўсё было б добра, каб жа аграному не прыспічыла апоўначы ў прыбіральню… Падняў вэрхал. Абышлося тады, бацькі ўпрасілі агранома, участковы таксама не захацеў псаваць статыстыку. На сходзе адно толькі дырэктар школы пагразіў ім выключэннем з камсамола і сказаў, што па Гамановічу турма плача.

Аднак жа ён і школу скончыў, і адслужыў, а вось пасля… Пасля неяк пакацілася: на вяселлі ў сябрука армейскага няўдала пабіўся з адным недарэкам — выбіў таму вока. Першы тэрмін быў невялікі — два гады. На дварэ ўжо былі дзевяностыя. Паехаў да стрыечнай сястры ў Маскву, там зноў уліп: хлопцы ўгаварылі латашыць вагоны на станцыі. Загрымеў другі раз. Потым цягаўся па бясконцых расійскіх абшарах з такімі ж, як і сам, улазіў у непрыемныя гісторыі. Жыў з такімі ж, як і сам, валацужнымі жанчынамі, піў, калі былі грошы, галадаў, калі іх не было. Трапляў за краты. Не, забіць нікога не забіў, так, за крадзяжы. Сям'і завесці не паспеў. Жыў, праўда, з адною прыстойнаю жанчынаю да чарговай адсідкі, але тая пасля не прыняла яго — дзеці былі супраць.

Два тыдні таму выйшаў з калоніі пад Саранскам пасля пятай ходкі. Сеў на станцыі з валізкаю. Маладая сям'я кудысьці ехала: жонка з мужам на лавачцы пілі квас, смяяліся, хлапчук малы ганяў вакзальных галубоў. Ён узгадаў, як некалі вось так жа, з бацькамі, ехаў у Маскву на Юльчына вяселле, якраз за год да бацькавага сыходу ў лепшы свет. Як стаяў на вакзале ў Гомелі, як удыхаў новыя, такія нязвыклыя пахі, і, здавалася, столькі яшчэ іх будзе ў жыцці, столькі ўсяго добрага будзе. А што ёсць у пяцьдзясят два? Дзе яно, тое новае і добрае? Ні кала ні двара, і навокал вецер свішча. І так моташна зрабілася, калі прыгадаў сябрукоў сіпатых, калоніі смуродныя, вертухаяў прадажных, чыфір чорна-карычневы, жанчын фальшывых, жыццё беспрытульнае. Ажно завыць на розныя галасы захацелася. І ў той жа момант вырашыў: усё, хопіць, паеду на радзіму, у Беларусь, асяду ў вёсцы, буду маці даглядаць, буду проста жыць. Пасля адумаўся: гадоў з дваццаць не быў жа дома. Як там, што там? Забыў, калі ў апошні раз пісаў маці, бо аднаго разу вырашыў, што не варта яе хваляваць. Вось некалі ўсё ўстаканіцца, асядзе, вось тады ён і напіша ці прыедзе. Прыехаў…

Вася нешта лапатаў — яго было не спыніць.

— Во, прыйшлі, кірдык яго туды.

Гарачыня адышла. На могілках панавала цішыня. Ні птушыных галасоў, ні павеву ветрыка, аніякага руху. Усё замерла ў гэтым жыцці. І ў яго жыцці ўсё спынілася — пасля школы як не было анічога. Суцэльны правал, жудасны сон: магіла на месцы хаты, як магіла для яго жыцця.

Гамановіч спыніўся каля свежых штучных вянкоў:

— Хто тут?

— Дык Буйніцкага Колю памятаеш? Твой аднакласнік. Во, месяц таму пахавалі — з Гомля прывезлі, сам так захацеў. Рак у яго быў.

— Колю? Як не памятаць.

Гэта з Буйніцкім яны тады тую аграномаву машыну кацілі на вуліцу, Коля ёю і кіраваў — бацька быў калгасным шафёрам, навучыў сына.

— Дык з тваіх шмат каго няма, — зноў забалбатаў Вася. — Хто ад гарэлкі, у каго сэрца, здаецца, пяцярых ужо пахавалі. Хлопцы ўсе. Ды і з майго класа не менш. Ну, дык усе там будзем, што ж.

Бацькоўскія магілы зараслі травою: там даўно ніхто не прыбіраўся. Каля крыху пахіленага бацькавага помніка сіратліва свяціліся аблезлыя штучныя кветкі. На матчынай магіле стаяў пачарнелы драўляны крыж, перавязаны шэрым з чырвоным арнаментам ручніком. Ручнік, на дзіва, свежы, не злінялы, — відаць, хтосьці сёлета павязаў. Металічная агароджа, якую Гамановіч сам усталёўваў некалі пасля службы ў войску, аблезла: ад фарбы застаўся адно ўспамін. Ён падышоў да магіл, працёр ад пылу медальён на бацькавым помніку, паправіў ручнік на крыжы. Трэба было б даўно ўжо тут навесці парадкі.

— От, такая жытка ў чалавека: жыў-жыў, а пасля туды. І ніхто не спытае — хочаш ці не, — па-філасофску разважыў Вася.

Гамановіч выцягнуў папяросы, закурыў і працягнуў пачак Васю. Той ахвотна ўзяў, жвава прыпаліў, з асалодаю зацягнуўся…

Цётка Галя паспела сабраць на стол: гарачая маладая бульба, гуркі, каўбаса крамная, сала з яйкамі на патэльні. І, вядома ж, бутэлька. Вася падміргнуў яму: маўляў, усё як мае быць.

— Ну, за сустрэчу, значыць, — Вася падняў кілішак. — Гэта, дай божа, каб заўтра тожа.

Ён з асаладою выпіў. Гамановіч узгадаў: менавіта так заўсёды прамаўляў Вася, калі куляў чарку яшчэ ў юнацкія гады. Па-суседску не раз дапамагалі адзін аднаму, а без выпіўкі не абыходзілася.

— А як вы пажываеце, цётка Галя?

— Ат, Пецечка, неяк кідаемся, во, удваіх з гэтым, — жанчына скрушна глянула на сына. — Мікола мой памёр, як толькі на пенсію выйшаў. Вольга, дачка, дзякуй Богу, добра жыве. У Мазыры і сям'я, і кватэра, муж харошы, не п'е. Не тое, што вось гэты… Можа ты, Пецечка, яго трохі паўшчуваеш. Працаваць не хоча, адно толькі ў бутэльку глядзіць. І жонка ж добрая была, ды якая з такім апівудаю жыць будзе. Вось жа няшчасце на маю галаву.

— Мама, што ты зноў пачынаеш, ты ж ведаеш, не магу я цяжка рабіць — спіна ў мяне, кірдык яе туды. А дзе ў калгасе лёгкая праца?

— А дзе ж ты гэтулькі быў, Пеця? Чаму не пісаў?

Гамановіч паклаў відэлец, выцягнуў папяросу.

— Так склалася. Сядзеў я, цётка Галя, але нікога не забіў, сядзеў так, па дурасці. Таму і не хацеў хваляваць маму. Думаў, неяк усё наладзіцца, тады напішу. Ды не выходзіла.

— Але нядобра так, Пеця. Каб жа ты ведаў, як яна цябе чакала. Вы ж не ведаеце, як маці перажываюць за сваіх дзяцей. Хоць паранены, хоць у турме — напішы. Маці ўсё зразумее, усё даруе, адно толькі ведаць, што ты жывы. А вы? Што ж вы робіце з мацяркамі?

Гамановіч падняўся, за ім і Вася. Яны выйшлі на вуліцу. Вечарэла. На бульбоўнік садзіўся ледзь прыкметны туман. З-за шырачэзнага шатра старой ліпы прабівалася барвовая чырвань.

— Дык што будзеш рабіць?

— Не ведаю, — шчыра прызнаўся Гамановіч, — пакуль не ведаю.

— Дык заставайся — хат пустых у вёсцы шмат. Яны нікому непатрэбныя. Дарэчы, тваёй цёткі Марыі хата яшчэ стаіць — таксама ніхто не жыве. І мне весялей будзе, бо мужыкоў амаль няма.

— Не ведаю я.

— Тады пайшлі, там яшчэ засталося, не пакідаць жа на заўтра.

Пасля вячэры нейкі час Гамановіч слухаў п'яную Васеву балбатню, яго расповеды пра былых аднакласнікаў, пра тое, хто і дзе жыве. Цётка Галя, прыбраўшы са стала, паслала яму ложак, і, перад сном, ён выйшаў на вуліцу.

Доўга сядзеў на лавачцы, думаў пра тое, што рабіць далей, але нічога путнага не прыходзіла ў захмялелую галаву. Ён у каторы ўжо раз закурыў, глянуў на вуліцу, туды, дзе стаяла хата, і сэрца сціснула, як абцугамі. Пустка. Цёмная пустка, ажно неяк страшна туды глядзець. Асабліва цяпер, у цемры. Хутка ўся вёска пераўтворыцца ў пустку. Яго жыццё — суцэльная пустка. Як жыць далей? Боль, які немагчыма трываць, прарваўся, як прарываецца застарэлы нарыў. Праз сціснутыя зубы, сцятую глотку ўвысь паляцела не то выццё, не то жудасны крык, які любога прымусіў бы ўціснуць галаву ў плечы і баязліва азірнуцца.

— Што гэта? — падхапіўся ў ложку Вася.

— Ды спі ўжо. Сабака нечый вые, мо, Трафімчыкаў, халера нейкая яго бярэ, — адазвалася маці.

Вася апусціў галаву на падушку, памуляў вуснамі і праз нейкі час роўна засоп. Начны вецер расцягнуў хмары, праз фіранку ў хату палілося мяккае святло. Вёска засынала пад бялявым зіхоткім месяцавым святлом і заспакойваючым шэптам лёгкага вятрыскі. Толькі адзін чалавек яшчэ доўга сядзеў каля хаты і час ад часу мармытаў нешта няўцямнае.

# Жнейка жыта



Данута БІЧЭЛЬ

## Ойча наш

*Ты мяне, зерне, пасеяў тут —*
*я тут расту...*
*Ойча наш, калі я перайду*
*праз мяжу ў прастору, у прастатў,*
*праз генетычны код роду*
*з-пад спуду —*
*ад слова, якое адбілася ценем,*
*да Слова, Якое сталася Целам,*
*магчыма, так праясніцца*
*таямніца жывога жыцця, —*
*я — Тваё, Ойча, узлюбленае дзіця...*
*Ты любоў мне даў як аванс...*
*Паміж нас —*
*між Тваёй зямлёю, Тваімі вышынямі —*
*звініць непарыўная чыстая лінія...*
*У гэтым бляску*
*ўсё дадзена мне навырост —*
*на Тваю хвалу, на мой пост,*
*на мой пералёт кароткі —*
*як абавязак салодкі —*
*неад'емнасць, надзейнасць,*
*споўненасць, недарэмнасць...*
*Ты мяне*
*не перасаджвай з Тваёй чыстай зямлі,*
*я тут зацвітаю калі-нікалі*
*на блакітнай градцы малой...*
*Ойча наш, Ойча мой!*

## Каторы ёсць у небе

*Моцай нашага розуму*
*зразумець гэта нельга.*
*Моцай людскога ўяўлення*
*і вымярэння — нельга:*
*ні дацягнуцца, ні дакрануцца*
*да Тваёго Сэрца...*
*Выпадкова на досвітку*
*вочы ў вочы*
*нам з Табой не сустрэцца...*
*Нам не адамкнуць самім*
*Тваіх брам.*
*Нам не даскочыць самім*
*да Тваёго неба.*
*Ні дакрычацца,*
*ні дапрасіцца нема...*
*Мы — ад зямной зямліцы.*
*Нам быць надта дзёрзкімі нельга.*
*Як нерпа ў нераст у нерад...*
*Недбаль. Неўдаль.*
*Я часовы тут госць.*
*Наш белы свет — гэта неба.*
*Вакол нашай зямліцы*
*глыбокае неба.*
*Недасяжнае, вечнае,*
*справядлівае неба.*
*Каторы ёсць у небе...*
*На зямлі Каторы ёсць...*

## Свяціся імя Тваё

*Гэта не паддаецца ацэнцы*
*людскіх мазгоў.*
*Гэта аднекуль снуецца,*
*ліецца, пяецца,*
*паўтараецца зноў і зноў...*
*патаемны, таемны схоў...*
*Свяціся імя Тваё!*
*На ўзроўні навяртання,*
*аддання, адхлання,*
*маўчання, дыхання, благання,*
*літаніі ахвярараскладання,*
*малення да самаспалення...*
*як у сонцаспёк прахаладны гаёк —*
*свяціся імя Тваё...*
*З гарызантальнай лініі здарэнняў,*
*якіх так мала,*
*на вертыкальны экран*
*вартасцяў-ідэалаў,*
*праекцыі дасканалая форма,*
*абсалютная, выключная,*
*канчатковая норма жыцця...*
*Штодзённы людскі зварот*
*да ясных яснот*
*мае сілу перамяніць*
*жыццё маё —*
*свяціся імя Тваё!*

## Прыйдзі валадарства Тваё

*Прыйдзі валадарства Тваё...*
*А мяне тут зусім не было...*
*Прыйдзі валадарства Тваё —*
*на святле ланцугоў звяно...*
*Прыйдзі валадарства Тваё,*
*як жыццё затухае маё...*
*на Тваёй, сагрэтай*
*Тваім валадарствам зямлі,*
*у валадарстве Тваім сабой агарні...*
*у неабдымным —*
*у музыцы без пачатку — канца,*
*у неабсяжным валадарстве*
*паўсюднага Бога Тварца...*
*У Табе растvaraецца ўсё,*
*і кіруецца ўсё да ўсяго —*
*да валадарства суіснавання...*
*Каб не страціць Яго*
*таямніцы феномену*
*ў мове, мыслі, дзействе і спрэс —*
*няхай мерае меру,*
*наводзіць парадак і сэнс.*
*Выхваляем Цябе*
*кожнай істотай жывой,*
*збаўленай збаўчай Крывёй.*
*Калі тут завершыцца зямное жыццё,*
*прыйдзі валадарства Тваё...*

## Будзь воля Твая, як у небе, так і на зямлі

*На цыферблаце, з падсветкаю сінім,*
*ходзіць без стрэлак вечны гадзіннік.*
*Цікае, цікае, цік — маладзік,*
*поўнік, вятох ды пустыннік...*
*Над соннай начною зямлёй*
*цікае па волі Тваёй...*
*Чысты аркуш тратуара шэры*
*чыстымі крокамі не перамераць.*
*Чыстае слова камень падымае...*
*Маўчанка з Табой нямой не бывае...*
*Могуць вочы ў цямне*
*Пана Бога хваліць:*
*— Будзь воля Твая,*
*як у небе, так і на зямлі.*
*У цёплым, цёмным, цёмным цямне*
*сіроткі мае чакаюць мяне,*
*сіроткі мае выглядаюць вясны —*
*радкі, мае дзеткі, адны і адны...*
*Ўсё, Божанька, бачыш —*
*дзе Ты, а дзе — я...*
*— Будзь воля Твая,*
*як у небе, так і на зямлі...*
*Як штодзённа, так на зары...*
*Пацягушачкі-гушкі —*
*каткі на вярбіне...*
*Павярнуўся на бок*
*ліст нябёс цёмна-сіні...*
*І пакуль ад зары ліст нябёс*
*не запаліцца,*
*у слабасці слова маё дасканаліцца...*
*— Будзь воля Твая,*
*як у небе, так і на зямлі,*
*і яснот, і чарнот не заімглі...*

## Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння

*Лячу, лячу па высокім жыце...*
*Каласкоў красаванне, казыцце...*
*Лета, лета, спелае лета,*
*планета жыццём сагрэта,*
*перапёлкай-пёлкай апета,*
*дабрынёй, буйным зернем наліта*
*жыта спелае, жыта, жыта...*
*прытуляе бок да блакіту*
*аж туды, дзе святлее Ліда,*
*дзе неба да жыта прышыта,*
*а жыццё-быццё да нябыту...*
*Праменем-праменем хадзіла,*
*сонейкам матулі свяціла,*
*незабудкай цвіла сястрыцы, —*
*не калоліся з ёй, як кастрыцы, —*
*дзве прыгожыя з казкі царыцы...*



Фота vaticannews.va

*Паспрыяў жа нам Бог нарадзіцца,*
*прытуліцца, уцелавіцца*
*у жыцейка ўскрай гасцінца...*
*Бы ў шчаслівы сон — у жыццё.*
*Дзякуй, мілы Божа, за ўсё.*
*Толькі, Божа, не пераблытай*
*Кашчыху й мяне, жнейку жыта...*
*Хлеба нашага штодзённага дай,*
*каласкамі пераажагнай.*

## І адпусці нам правіны нашыя

*Затаптаўся надворак жылякамі*
*саломы,*
*не забыў тваіх вуснаў*
*вільготна-салоных.*
*Здзіраванеў агарод за глінянаю ямай...*
*Да святла маіх сноў ты прывязана,*
*мама.*
*І чаму ты штодзённа, штозмрочна,*
*штоцёмна*
*так мяне выклікаеш балесна,*
*нястомна,*
*так слязьмі акрапляеш сцяжын*
*маіх паскі?..*
*І ніякай патолі не дае «Анёл Пanскі»...*
*Я ніжу на Ружанчык пялёсткі*
*штоночы.*
*Я літую ў літанію смутку вяночак.*
*Пераплачу нататнік святой Фаустыны...*
*Толькі ў сон упаду —*
*упаду ва ўспаміны.*
*Як мне добраму Богу*
*адбіць тэлеграму,*
*каб у ласцы святой*
*прытуляў маю маму?*
*Каб сагрэў яе ў Краі,*
*таемным і мілым,*
*ды прабачыў правіны*
*халоднай магілы...*
*Адпусці нам правіны,*
*адпусці нашы хаты.*
*Там нікога няма,*
*там няма вінаватых.*
*Абразок папяровы.*
*Збянтэжана мышка.*
*Ключ схаваўся. А я пад парогам —*
*бы мнішка.*

## І не ўводзь нас у спакусу

*У райскім садзе пчаліным вуллем*
*на хмарках крыжыкі крэслім вуглем...*
*У захмар'і чысцім анёлкам крылцы,*
*аблокі звязваем у навальніцы...*
*Колькі на свеце свяціцца вочак,*
*столькі малітваў сплячем у вяночак...*
*І не ўводзь нас у спакусу*
*пахвалой наносіць укусы...*
*І не ўводзь нас у спакусу*
*мінусы крэсліць на плюсы...*
*І не ўводзь нас у спакусу*
*райскія яблыкі ў садзе надкусваць...*
*І не ўводзь нас у спакусу...*
*...з прымусу*

## Але збаў нас ад злога

*Я стачыла ноч з ночай,*
*а быў белы дзень...*
*Перадаў мне анёлак праз хмарку*
*прамень.*
*Зелень ліпак і лапік*
*шаўковых нябёс.*
*Аб чым мроіла, тое і зведала... Вось...*
*Пераблытала даты. Стаптала абсяг.*
*Беларусь збудавала Паэту ў пасаг.*
*Столькі зведала сонца*
*між красак і траў!*
*Але ўсіх маіх хлопцаў Ты,*
*Божа, забраў!*
*Мне ад продкаў ніякіх тут спадкаў,*
*заслуг.*
*Ад нашчадкаў — падзяка:*
*змацавала ланцуг.*
*Замест золата лёнам сатканых дзяруг,*
*замест дуг залатых —*
*Дух Святы, Божы Дух.*
*Я марнуюся днямі, я начамі не сплю.*
*Ўсё жыццё перадумаю, перамалю...*
*Болем сэрца складаю малітву,*
*слязьмі...*
*А як б'юць мяне, Ты засланяеш*
*грудзьмі.*
*І цяпер ма́ю шмат, а здаецца —*
*нічога...*
*Але збаў нас ад злога.*
*Амэн.*

## Аўтапартрэт

*Хто я такая? Жанчына.*
*Мяне прыдумала спёка.*
*Самота і смутак пазнання*
*на свет красы нарадзілі.*
*А лупавокія яшчаркі, тутэйшыя*
*кракадзілы,*
*чараваць навучылі*
*пацягнута марывам вока.*
*Яшчэ не было гісторыі*
*ў мяне і ў маёй краіны,*
*ад якой суседкі-краіны*
*пакідалі толькі руіны,*
*як у зніклёнай кароны, —*
*князь Вітаўт яе не надзеў...*
*Як у паважнай матроны —*
*без датаў жыву, без падзей.*
*Каго любіла? Айчыну*
*з бурлівай быстрай ракою,*
*з ластаўкай гаваркою,*
*з лесам крылатага бору.*
*Каго кваліла? Мужчыну,*
*прынёс мне шмат неспакою.*
*Мужчыну лёгкай ходы,*
*задзірыстага гумору.*
*Зведала мукі любові,*
*пакуты чыстыя слова.*
*Ці шмат пакут? Дастаткова,*
*каб заглушыць уздыханне.*
*Каб заслужыць дараванне —*
*крыўдзіла невыпадкова...*
*Сабою магла красавацца,*
*як маладыя суседкі...*
*Звабіла доля паэткі.*

## Як вярнуцца дахаты

*Так далёка занеслі ногі.*
*Як вярнуцца дахаты?*
*У сустрэчных спытаю дарогі.*
*Кожны справай заняты...*
*Як вярнуцца дахаты?*
*Спытаю ў памяці, сноў.*
*А навошта? — заспрэчыць памяць.*
*Каб на золку з хаты ізноў?*
*Як вярнуцца дахаты,*
*не ведаеш, дуб расахаты?*
*Калі ты не баішся страху,*
*пацямнелае сонейка даху*
*можна згледзець з майго макуша...*
*Ад высі ў пятках душа.*
*Як вярнуцца дахаты,*
*дзе сарока цікуе з дзічкі,*
*каля прызбы цвітуць чаравічкі*
*у суладдзі кропу і мяты?*
*Там кудахтаюць куры на седале.*
*Там пра долю матуля ведае.*
*Там на вербніцу, нібы вербачка,*
*распушылася маё сэрдачка...*

***Данута Янаўна БІЧЭЛЬ у гэтыя дні-месяцы сустракае свой высокі юбілей. Шчыра віншуем нашую славутую паэтку і жадаем ёй радасці, здароўя і душэўнага спакою.***

# Два аповеды



Міхась КОНАН

## Ноч у Піліпаўку

Ігнась ішоў шпарка, шырока растаўляючы ногі. Яго высокая постаць у жаўтаватым кароткім кажушку гойдалася ад гэтага ў бакі, ледзь не чапляючыся за прыдарожныя кусты. Стары след ад саней задзьмула завея, і цяпер тут была пратаптана толькі вузкая, як на ступню, сцяжынка. Абапал — гурбы, ступі — і амаль да пояса праваліўся ў снег. Ён рыпеў пад хромавымі ботамі, якія Ігнась выпрасіў у бацькі, каб схадзіць у суседнюю вёску на вечарынку.

Танцаў там добрых не было: зіма, халадэча, ды яшчэ й баяніст быў адзін, без цымбаліста. Але Ігнася больш цікавіла Люська, вяртлявая рыжая дзяўчынка ў белым кажушку. Падабалася яна не толькі яму, а і многім хлопцам з Мацееўкі, што была кіламетры за тры ад іх вёскі.

Неяк раз, яшчэ мінулай зімой, мацееўскія мальцы сабраліся разам ды і сустрэлі Ігнася на сцежцы, дзесьці ў гэтым месцы. Ну, значыць, каб правучыць чужога кавалера. Што рабіць? Адзін — супраць семярых... І ўсе — з каламі. Ігнась быў хлопец спакойны па характары і дужы.

— Ну, што? Усе на аднаго?! Падыходзьце... — Голас яго задрыжаў ад напругі.

Ігнася брала злосць. Асабліва калі ён убачыў, што рыжы Навум, які таксама заляцаўся да Люські, сабраў на расправу з ім, лічы, усіх мацееўскіх мальцаў. І хаця ў Ігнася ў руках нічога не было, ён першым кінуўся да мацееўскіх. Выхапіў нечакана ў аднаго з іх кол і з усяго размаху ўдарыў Навума. Той войкнуў ад болю і асунуўся на снег. Але Ігнася ўжо абышлі ззаду. Нехта збіў з галавы вайсковую бацькаву вушанку, а другі малец ударам кала рассёк яму вуха. Пацякла кроў...

Ігнась у той бойцы ўсё ж улажыў дваіх. Астатнія, забраўшы пад рукі пабітых, адышлі.

— Чакай, басата! — прыгразіў рыжы Навум. — Мы яшчэ сустрэнемся! Ты яшчэ нас папомніш. А пра Люську забудзь. Ясна?!

На сёняшніх танцах рыжага не было. Ды і яго хаўруснікі па адным туліліся па вуглах. Ігнась жа амаль увесь вечар танцаваў з Люськай. Тая ільнула да хлопца, калі яны выходзілі з хаты на вуліцу, каб астыць, і ўсё скардзілася:

— Баюся я гэтага Навума... Чапляецца ён да мяне, дзе толькі ўбачыць. У вёсцы ж ад яго нідзе не схаваешся.

Ігнась дужымі рукамі падымаў маленькую Люську пад пахі, як тую ляльку, прыціскаў да сябе і ўсё шаптаў на вушка:

— Дурненькая, не бойся яго. Я з ім яшчэ паквітаюся. Калі трапіцца на дарозе — з маіх рук яму вырвацца будзе цяжка.

— Ну што ты, Ігнашка, не трэба...

Тады, у першыя пасляваенныя гады, калі прагналі фашыстаў, жаніхоў у вёсцы было мала. А Ігнась — хлопец што трэба, і Люська не хацела яго адпускаць. І дужы, і прыгожы, і працавіты. Што яшчэ дзеўцы трэба? А што ён негаваркі, дык гэта не загана. Галоўнае, каб рукі былі не лянівыя.

Пра хлопца і ў Мацееўцы гаварылі рознае, але больш хвалілі за сілу. Бывала, заспрачаецца ён з дарослымі мужчынамі, хто крапчэйшы, ды й падыме на плячах паўгадавалага бычка ці ўскіне з зямлі на спіну мех солі пудоў на шэсць. Мясцовая прадаўшчыца, тоўстая непаваротлівая баба Жэня, якая жыла па суседству, калі ў краму завозілі соль ці яшчэ што цяжкое, заўсёды прасіла Ігнася разгружаць тавар. Прапаноўвала потым за гэта нават пляшку крамнай гарэлкі, але той адмаўляўся:

— Ды не п'ю я, цётачка. Вы ж ведаеце. З бацькам як-небудзь разбярыцеся...

Успомніўшы пра бабу Жэню, а потым і пра дом, хлопец схамянуўся: заўтра ж трэба раненька ехаць у лес па дровы. Бацька ўжо і з леснікам дамовіўся, і нават бутэльку самагонкі занёс таму як аванс.

— Сынок, ты ж там на вечарынцы доўга не баўся, — наказваў бацька, даючы Ігнасю панасіць свае хромавыя боты і вайсковую дзягу, якія засталіся пасля вайны. — Мы ж цябе з маці чакаць будзем. І глядзі там з рыжым Навумам зноў не счапіся. А то я цябе знаю...

Ігнась шкадаваў старога Лявона. Бацька прыйшоў з вайны параненым, быў слабы і часта хварэў. Таму ўся дамашняя сялянская работа легла на плечы старэйшага сына. Блізняты, брат і сястрычка, якія нарадзіліся пасля вайны ўжо, былі яшчэ малыя, а маці і так хапала клопату ў хаце, каля скаціны ў хляве ды на гумне.

Да вёскі было ўжо блізка, і Ігнась прыбавіў хады. Студзенькія марозы ў Піліпаўку на гэты раз былі слабыя, і хлопец не надзяваў пальчаткі, што звязала маці. Ён хацеў нават расшпіліць дзягу, якой падпразваў кажух, але, заўважыўшы, як наперадзе, крокаў за сорак, прамільгнуў нейкі агеньчык, апусціў рукі. Ноч была месячная, але з-за кустоў, што навісалі над сцежкай, не было бачна, хто там.

«Няўжо зноў Навум са сваёй хеўрай?» — падумаў Ігнась. Але адступаць ён не прывык. Ды і куды? Тут ужо да хаты з паўтары сотні крокаў засталося. Сцежка паварочвала ўправа, і Ігнась на ўсякі выпадак, выцягнуўшы рукі з кішэняў кажушка, увесь напружыўся: за паваротам чакаць можна было ўсяго.

А там, прыпадаючы да сцежкі, крадзўся насустрач воўк-канятнік. Ігнась зразумеў гэта па яго росце: той быў з добрае цяля. Хлопец ведаў, што такія звяры ўдваіх ці ўтраіх лёгка могуць завяліць каня, лася, а не тое што малога дзікага падсвінка ці дваровага сабаку.

Ігнасю аднойчы даводзілася бачыць забітых ваўкоў, але такіх вялікіх, як гэты, — ні разу. А пасля вайны іх развялося столькі, што яны нападалі не толькі на сабак, што былі на прывязі, а праз соламяныя стрэхі па гурбах снегу залазілі нават у невялікія аўчарні. Быў нават выпадак у тых жа Мацееўцах, дзе ваўкі ноччу ў Піліпаўку, калі ў іх былі свае «вяселлі», загрызлі кульгавую Ясючыху, якая адна апоўначы ішла дамоў нацянькі праз кустоўе, што расло ўздоўж замерзлага ручая. Усё гэта імгненна пранеслася ў галаве Ігнася. Ён разумеў, што паварочвацца да ваўка спіной нельга: гэта яўная смерць. Ды і адступаць не было куды. Хлопец хацеў намацаць у кішэні самаробны сцізорык, які сам змайстраваў з кавалка зламанай пілкі-нажоўкі, але было позна. Канятнік прысеў на пярэднія лапы, падрыхтаваўся да кідка на ахвяру.

Звычайна ваўкі, нападаючы на хворага ці старога лася або падсвінка, цэляцца адразу ўхапіць іх за горла, каб спусціць кроў. Ігнась інстыктыўна ўгнуў галаву, і канятнік прамахнуўся, толькі моцна ўдарыў хлопца грудзьмі. Той устаяў на нагах. Галава звера з кароткай непаваротлівай шыяй аказалася вышэй збітай на патыліцу вушанкі. Воўк толькі клацаў у паветры зубамі. А Ігнась, інстынктыўна ўхапіўшы звера папярок тулава, усё цісну ў і цісну ў яго да сябе, быццам жалезнымі абцугамі. Воўк усё ж паспеў моцнымі заднімі лапамі разарваць кажух і, каб не вайсковая дзяга, пэўна, выпусціў бы хлопцу кішкі. Хватка Ігнася была літаральна мёртвай: ён не даваў зверу ні галаву павярнуць, ні дрыгаць больш лапамі. Праз некалькі хвілін, яшчэ больш напружыўшыся, хлопец, відаць, усё ж зламаў зверу хрыбет, бо той толькі працягла ўзвыў і абмяк.

Так і прынёс ваўка ў свой двор. Пачуўшы чужы пах, заліўся брэхам іх сабака, разбудзіўшы бацькоў.

Перапуджаная маці закрычала немым голасам, убачыўшы сына пасярод двара з ваўком у абдымку. Разам з бацькам яны спрабавалі расшчапіць рукі Ігнася, каб скінуць на снег ужо нежывога звера, але гэта ім ніяк не ўдавалася. Толькі паклікаыя на дапамогу суседзі ўсё ж неяк здолелі расшчапіць рукі хлопца. У яго пыталіся, як усё адбылося, але Ігнась маўчаў. Маці прабавала стрэсці з яго чарнавалосай галавы снег, але, зразумеўшы, што гэта сівая пасма валасоў, загаласіла:

— А мой жа ты сыночак! Што ж гэта ён з табой нарабіў?!

Потым яшчэ больш за месяц Ігнась праляжаў у райцэнтры ў бальніцы, пакуль зноў змог загаварыць. Дапамагала гэтаму і Люська, якая, ужо зусім не саромеючыся, як нарачоная, амаль кожны дзень увечары дабіралася ў бальніцу, сядзела гадзінамі каля ложка Ігнася і ўсё перабірала яго раптам пасівелыя на скронях валасы.

Пагалоска аб тым, што Ігнась у Піліпаўку задушыў рукамі ваўка-канятніка і прынёс яго дадому, абляцела ўсе навакольныя вёскі. З тае пары хлопец не стаў ні больш гаваркім, ні слабейшым. Цяпер ужо ні рыжы Навум, ні яго кодла нават і не думалі дражніцца з Ігнасём. Толькі са злосці ахрысцілі яго Ваўкадавам. Чаго ў гэтай мянушцы было больш, сказаць цяжка, аднак за смеласць і сілу Ігнася сталі паважаць і знаёмыя, і незнаёмыя людзі.

Ды й Люська цяпер на кпіны сябровак толькі жартавала ў адказ:

— Не-а, мяне ён абдымае мякка, як дзіцятку матуля. А калі Ігнасёк не ў гуморы, лепш не трапляцца яму пад руку.

## Ахвяра

Кірмаш у Малінаве гудзеў людскімі галасамі ўжо з раніцы. Павозкі ці простыя сялянскія калёсы стаялі бліжэй да агароджы ў два рады з абодвух бакоў вузкага праходу. Хто прадаваў драўляныя бочкі і цабэркі, хто парасят, хто самаробныя алюмініевыя гаршкі, хто конскую вупраж, хто яблыкі. З розных куткоў кірмашу чуліся крыкі прадаўцоў, смех, жаночыя галасы, дзіцячы плач. Хтосьці іграў на гармоніку, іржалі коні, вішчэлі свінні, недзе ашалела спяваў певень — ішоў торг.

Сымонка, пакінуўшы на калёсах звязаную па нагах авечку, каб тая не збегла з воза, і рыжую Жульку, якая заставалася за стоража, пайшоў па радах, каб купіць дамоў са два «люміневых» гаршкі, як прасіла жонка Гануля. Грошай, што выручыў за прададзенага яшчэ з раніцы маладога баранчыка, было мала, але Сымонка рызыкнуў усё ж купіць сынам па самаробнай цукерчыне. Тут, ля ўваходу на кірмаш, стаяла яшчэ даваенная мураванка з чырвонай цэглы, дзе прадавалі і ласункі, і вэнджаныя каўбасы, і нават малдаване прывозілі сюды іншы раз сваё віно.

Сымонку так карцела каўтануць хоць кілішак, але ён стрымаў сябе: яшчэ ж і авечку прадаць трэба, і гаршкі Ганулі купіць, і хлопцам цукерак знайсці. І раптам яго думкі збытаў адчайны брэх яго Жулькі. Ён пачуў яго здалёк, амаль з другога канца кірмашу, і адразу, піхаючы людзей у бакі, кінуўся да свайго воза. Сымонка ведаў: сучачка не будзе дарэмна брахаць. Значыць, нехта чужы лезе да яго воза.

Яшчэ здалёк Сымонка ўбачыў, як побач з яго калёсамі таўкуцца двое, спрабуючы нечым падлашчыць Жульку, каб тая не брахала. А яна аж залівалася ад брэху. Вядома, невялічкага сабачку двое дарослых дзядзькаў не баяліся, але ж, відаць, такі вэрхал ім быў непатрэбны. У калёсах, пад сенам, Сымонка схаваў некалькі самаробных драўляных лыжак, палонікаў і свістулек, якія прывёз на продаж. Там ляжалі і купленыя на кірмашы паношаныя чаравікі для старэйшага сына Сцяпана, які ў той год павінен быў скончыць сёмы клас і пайсці ў самастойнае жыццё. «А меншыя? Нічога, — разважаў Сымонка, — хадзілі дагэтуль ад зімы да зімы басанож, то паходзяць і яшчэ. А дзе на іх, пецярых, абутку набярэшся?» Дзеці ж да вайны нараджаліся ў яго адзін за адным.

Сымонка, невялічкі, вастраносы, з добра бачным ужо горбам мужчынка, быў уроўні са сваёй Ганулёй. Тая, паўнаватая, чырванашчокая кабета, іншы раз ласкава прыціскаючы да высокіх грудзей Сымонку, усё казала суседкам, якія раілі ёй займець дзяўчыну:

— Вось сходзім у царкву, Сымонка ахвяруе колькі грошай Хрысту, мо тады і дзяўчынка ў нас атрымаецца.

Але ніякая ахвяра не дапамагала. Сымонка і сам чырванеў, калі яго падсмейвалі вясковыя мужыкі за пецярых сыноў. Маўляў, не майстар ты, Сымонка. Дзяўчынка ж — гэта тонкая работа. Тут умець трэба. А можа, ты, Сымонка, і нам ахвяруеш які рубель, то тады мы дапаможам. Во гэта і будзе сапраўдная ахвяра.

Сымонка злаваўся на мужыкоў, адыходзіў у бок ці рабіў выгляд, што ён заняты сваімі клопатамі і нічога не чуе. А вяскоўцы тады далі яму мянушку — Ахвяра. Адзін раз падманіўшы гарбаценькага самагонкай, вясковыя мужыкі ўсё ж змаглі ўрваць ад Сымонкі ахвяру — цэлых два рублі. Дома Гануля не дужа ўскінулася на мужыка, але ж і не пахваліла.

— Ты з кім гэта так набраўся? — укладваючы яго на канапу ў чыстай палове хаты, ушчувала жонка. — Якое такое свята ў цябе сёння, пытаюся?

— Я, г-гэта. Я ахвяру ім даў. Вось яны і...

Вялікая сям'я Сымонкі жыла вельмі бедна. Ён рэзаў з дрэва лыжкі ды чарпакі, свістулькі і шкатулкі, прадаваў іх суседзям і на кірмаш вазіў. Пакуль у іх вёсцы, як і ўсюды ў Заходняй Беларусі, не пачалася калектывізацыя, Сымонка меў кабылку Мусю, гадаваў скаціну, араў, сеяў жыта. Але дастатку ў іх доме так і не было.

Таму ў той кірмашовы дзень у Малінаве ён вельмі спужаўся, што яго воз абкрадуць, могуць забраць нават і апошнюю авечку. Пасля вайны ўсялякай басуры хапала. Напрыклад, у суседняй Сасноўцы, у Антося, злодзеі ціхенька вывелі ноччу з незамкнутага хлява карову, якая карміла ўсю сям'ю.

Прапажу так і не знайшлі. Гаварылі людзі, што не было ў Антося добрага сабакі, ды хаця б якога, каб толькі брахаў. Вось і паквапіліся злодзеі на апошняе ў сям'і.

Калі Сымонка, захакаўшыся, прыбег да свайго воза, мужчыны ўжо адышлі, зрабіўшы выгляд, што разглядаюць цэбры і драўляныя бочкі, якія прадаваліся на суседніх калёсах. Жулька, убачыўшы гаспадара, колькі разоў яшчэ гаўкнула для адбытку на чужых людзей і стала лашчыцца да гаспадара. Дзякуй Богу, і авечка, і ўсё астатняе было цэлым.

З тае пары Сымонка стаў вельмі паважаць сваю Жульку. Ён і знайшоў яе маленькім шчанём тут жа, на кірмашы ў Малінаве. У той раз яны ездзілі на сваёй кабыльцы ўдваіх з жонкай. Ужо збіраліся надвячоркам ехаць дадому, ужо Сымонка запрог Мусю ў калёсы, а Гануля села на перадок воза, як збоку ад плота, дзе з раніцы прадавалі парасят, пачуўся жаласлівы піск нейкага шчаняці. Сымонка аддаў лейцы жонцы, кінуў на хаду:

— Пачакай. Я зараз. Толькі гляну.

І праз колькі хвілін ён прынёс на калёсы замерзлае шчанё, закруціў яго ў пасцілку, што ляжала зверху на саломе, адшчыкнуў яму крыху хлеба, які астаўся ад абеду.

— Ты што гэта, Сымонка, — ускінула поўныя рукі жонка, — тут дзяцей нечым карміць, а ты са сваім шчанём. Яшчэ адзін рот! Хапіла нам твайго Лялюся, які летась здох.

Заканчэнне на стар. 7 »

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

# Два аповеды



Карціна Таццяны Данчуровай, 2008 г.

— Ну што ты, Ганулька. Не здох, а памёр. Стары ён быў. А гэты ж, бачыш, які маленькі. Ён жа многа не з’есць. Ну, хай жыве. І сынам прыемна будзе, і вартаўнік ля хаты патрэбны.

Гануля і сама любіла ўсё жывое, што было ў іх двары: і кабылку, і авечак, і курэй. Трохі пабурчэўшы дзеля адбытку, жонка больш не дакарала Сымонку за сабачанё. А яно было такое хітрае і жвавае, любіла гуляць, як кацянё, з паперынай, што ўсе дзеці і Сымонка ў адзін голас назвалі сучачку Жулькай. Падросшы праз год з добрае лісяне, яна ўсё ж ніяк не хацела сядзець ля сабачай будкі на ланцугу: енчыла, вырывалася ці проста выла.

Шкадуючы яе, Сымонка або дзеці адшчаплялі ланцуг і пускалі рыжую на свабоду.

Часцей за ўсё Жулька хадзіла следам за Сымонкам. Той у хлеў — і яна ззаду, ён у агарод — і Жулька следам бяжыць. Яна заўсёды па слядах гаспадара адшуквала.

Адзін раз, калі Сымонка пайшоў за раку ў лес, каб выбраць каржакаватых, як сам казаў, карэльскіх бярозін на свае лыжкі, ён (сабе на дзіва!) заблудзіўся. Гадзіны са дзве блукаў па балаціне і ўсё ніяк не мог знайсці сцежку на пагурак, а адтуль — на дарогу. А ўжо вечарэла. Балелі ногі, ныла і так нездаровая спіна, але кідаць нарэзаныя бярозавыя чурбаны было шкада. Сымонка прысеў у адчаі на купіну, каб рашыць, што ж рабіць і куды ісці. Жулька, уся мокрая і з наліплым на спіне лісцем, лашчылася да гаспадара, наравіўшы лізнуць яго ў твар.

— Ты лепш скажы, куды ісці дамоў, — скідваючы са спіны сучачкі лістоту, гладзіў ён сабачанё.

Тая толькі віляла хвастом, як бы супакойваючы Сымонку, лізала яму рукі.

— Ну што, малая, — устаў ён з купіны і ўскінуў на плечы бярэмя каржакаватых бярэзін, — пайшлі, ці што? Ну, вядзі дамоў, ты ж у мяне разумная. Нябось, у двары сляды добра чытала.

Быццам разумеючы просьбу гаспадара, Жулька павярнула ў другі бок, куды гаспадар не хацеў сам ісці, і, мінаючы лужы і дрыгву, пабегла наперад. Сымонка праходзіў ужо тут адзін раз, бо пазнаў гэта месца па заламаным у некаторых месцах галлі, але рашыў: што здарыцца, тое хай і будзе. Сучачка бегла шпарка, а калі гаспадар адставаў, садзілася на мох і чакала, пакуль той не падыдзе.

Нарэшце яны дайшлі да былых партызанскіх зямлянак, на пясчаны пагурак. Сымонка ўздыхнуў з палёгкай: адсюль ён дарогу ведаў добра. Яшчэ ў вайну прыносіў сюды партызанам дабытыя недзе сувязнымі лякарствы для параненых, нейкія запіскі, якія яму строга забаранялася не тое што чытаць, дык нават і даставаць з пакетаў. Ды й чытаць ён мог з цяжкасцю.

А каб не трапіць немцам у падазрэнне, Сымонка заўсёды прыносіў з лесу то колькі плашак асіны, то чорнай вольхі, то карэльскай бярозы. Рэзаў ён лыжкі і для немцаў: а што зробіш, неяк жа трэба было заваяваць іх давер. А салдаты, асабліва старэйшага ўзросту, давалі за гэта Сымонку крыху солі ці зношаную бялізну. Затое ён мог смела бываць у цэнтры вёскі, ва ўправе, дзе яго ўсе лічылі сваім. Ціхі, спакойны, з выгляду крыху недацёпісты з-за свайго горба, Сымонка, аднак, усё бачыў, запамінаў, а потым расказваў аб гэтым партызанам. Хатка, дзе ён жыў з сынамі і сваёй Гануляй, стаяла на ўскрайку вёскі, бліжэй да лесу, і партызаны іншы раз самі наведваліся сюды, бо занадта часта хадзіць у лес Сымонку яны не раілі.

Вярсты з тры ад зямлянак ішла гравійка, што звязвала іх вёску з райцэнтрам, да якога з паўтара дзясятка кіламетраў. Яна разразае вялізныя лясныя абшары і балота, па якім цячэ павольная рачулка Буйка. Ля райцэнтра, у прыгарадзе, у Сымонкі жыве старэйшы брат. Дзяцей у таго толькі двое, хлопец і дзяўчына, і ён часцяком даваў Сымонку то мяшок бульбы, то скварчыну, то якую паношаную адзежыну для пляменнікаў. А тут, надоечы, сам прывёз сапраўдны шынель, які насілі нямецкія юнкеры. Трафей гэты брат прынёс яшчэ з вайны, і яго старэйшы сын ужо вырас з шыняля. Дома гэту абнову па чарзе прымерылі ўсе Сымонкавы сыны, нават самы меншы Алёшка. Але, вядома ж, падарунак дастаўся старэйшаму Сцяпану. Таму ўжо ішоў чатырнаццаты год. А шынель быў і сапраўды цудоўны: колеру абмытай дажджом руні, ды такі яркі, што вачэй не адвесці. Захаваліся нават блішчастыя жалезныя гузікі на дарагім, хаця і добра пацёртым сукне.

Аддаючы падарунак, старэйшы брат зазначыў:

— Ты ўжо, Сымонка, прабач, што не змог табе нічога на гэты раз з харчоў прывезці. Ты ж помніш, трымалі мы авечку, навязвалі на лагу за пуняй. Было ў яе двое ягнят. К восені яны ўжо добра падраслі, больш за тваю Жульку былі. Ды вось бяда: мы не дагледзелі, як ваўкі ягнят загрызлі. Я сам не бачыў, людзі казалі, што прыйшлі яны днём, утраіх. Цэлая сям’я з маладым ваўчанём. І давай за ягнятамі ганяцца. Асабліва ж старалася ваўчанё. Адбілі яны ягнят ад авечкі і там жа, ля кустоў, і задушылі іх. Наогул, паказалі маладому ваўчаняці, як трэба на авечак паляваць. А маладога баранчыка я хацеў аддаць табе…

Тады, адразу пасля вайны, ваўкоў і сапраўды развялося шмат. Казалі, што германцы, адступаючы, спецыяльна пакідалі ў лясах абучаных нямецкіх аўчарак, якія, будучы вельмі агрэсіўнымі, асабліва не баяліся людзей Аўчаркі ў час воўчых «вяселляў» перамяшаліся з ваўкамі, і маладое патомства таксама было смелым. Так гэта ці не, Сымонка добра не ведаў. Ды надта і не цікавіўся: не да таго было, тым больш, што Гануля зноў зацяжарыла.

— То, можа, Ганулька, схадзіла б ты да Хвядоры, яна такую «хваробу», кажуць, добра лечыць. Куды ж нам яшчэ і шосты рот? — гладзіў Сымонка яшчэ зусім не падрослы жончын жывот.

— Ты што?! — адкінула Ганулька ў роспачы коўдру. — Ніколі гэтага не рабіла і цяпер не буду. Грэх гэта. Вялікі грэх. Крый Божа! Няможна так.

Сымонка і сам баяўся гэтага, чуў ад людзей, што аборт з’яўляецца забойствам. І цяпер нават шкадаваў, што ляпнуў жонцы такое. Ды й, па праўдзе кажучы, ён недзе ў глыбіні душы спадзяваўся, што ўжо на гэты раз будзе ў іх сям’і дзяўчынка. І брата́м уцеха, і маці памочніца. А дасць Бог, калі будуць сілы і сродкі, пашлём яе ў горад, вывучым на вучыцелку ці доктарку. Сыны ўсё больш па бацькавай сцежцы пайшлі. Вунь старэйшы Сцяпан — ужо сам зэдлік змайстраваў. Цяпер маці, калі чысціць бульбу ці што іншае робіць, садзіцца на яго ля прыпечку: і нізка, і спрытна.

Калі жывот у Ганулькі ўжо добра падрос і выпер з-пад фартуха, ужо надышла зіма. Жонка падлічыла, ды й Хвядора казала, што дзіцё павінна з’явіцца дзесьці ў Піліпаўку, напачатку студзеня. Сымонка шкадаваў Ганульку, не даваў ёй рабіць цяжкую работу па гаспадарцы: хадзіць за скацінай, насіць дровы, падымаць на прыпечак гаршкі. Усё браў на сябе, ды й сыны старэйшыя яму дапамагалі. Сымонка стараўся здабыць для жонкі нейкіх прысмакаў, але грошай, выручаных ад продажу лыжак, нават на хлеб не заўсёды хапала. І таму часцяком, запрогшы ў санкі Мусю, ён цераз увесь лес, за кіламетраў дванаццаць, ехаў у райцэнтр да брата, каб пазычыць у таго нейкага харчу.

У той раз ён узяў аж два мяшкі: адзін — жыта, другі — ячменю. Жонка брата дала свіных ног для квашаніны. Дома, праўда, заставалася крыху бульбы, але яе, асабліва насенную, беглі да вясны. Сымонка меркаваў, што ячмень ён змеле сам на сваіх жорнах на крупы, а жыта, калі пашчасціць, — на муку ў Сасноўцы, дзе быў на рэчцы млын.

Пакуль укінулі мяшкі ў сані, пакуль кульнулі па чарцы самагонкі, наступіў полудзень. Сонца свяціла сквозь зімовую смугу сціпла, як бы нехаця.

— Глядзі, Сымонка, не баўся, — наказваў брат на дарогу. — Бачыш круг вакол сонца? Значыць, яшчэ большы мароз будзе. Спяшайся.

Муська бегла хутка. Сані, толькі на мінулым тыдні падкаваныя новымі палазамі, слізгацелі па ўтаптаным снезе амаль бясшумна. Ад выпітай чаркі, ад таго, што вязе дамоў столькі дабра, ад думак пра цяжарную Ганульку ў Сымонкі на душы стала лагодна. Ён прываліўся да мяхоў з зернем і, не выпускаючы лейцы з рук, паступова задрамаў. Муська, адчуўшы поўную свабоду, перастала бегчы і ледзь клыпала па дарозе. Бок у Сымонкі грэла яшчэ і Жулька, якая і на гэты раз паехала ў дарогу з гаспадаром: ускочыла на сані і лізнула яго руку, значыць, папрасілася.

Калі Сымонка прачнуўся, ужо цямнела. Ён паматаў галавой, атрос з вачэй сон, паглядзеў на заснежаную балаціну, што ляжала па баках дарогі, зразумеў: толькі што пераехаў па мосце рэчку. Дадому было яшчэ вёрст пяць, і трэба было спяшаць. Густы лес, які пайшоў потым, быў маўклівы і нейкі чужы.

Тузануўшы лейцы, Сымонка пусціў Муську наўскач. Здавалася, усё добра. Праехалі два павароты, але тут нешта стала вурчэць і вастрыць вушы Жулька. Яна прыўзнялася на лапкі і павярнулася назад. Ужо добра сцямнела, і што яна там магла ўбачыць, Сымонка не разумеў.

— Сядзь! Скора будзем дома, — ён прыгарнуў Жульку да сябе.

Але тая не супакойвалася. Як толькі Муся павярнула на чарговае калена дарогі, наперадзе, як раз там, дзе была сцежка, што вяла да партызанскіх зямлянак, Сымонка заўважыў нейкія агеньчыкі. Яны то мільгалі, то знікалі, але ад дарогі не аддаляліся, быццам прывязаныя.

«Няўжо ваўкі?» — мільганула ў Сымонкі ў галаве. Ен ведаў, што ў Піліпаўку, калі іх вядзе ваўчыца, яны, галодныя і агрэсіўныя, збіваюцца ў зграі і смела могуць нападаць нават і на чалавека. Павярнуць назад? Не, гэта не выйсце. Ехаць уперад? Але зграя, відаць, падзялілася, бо агеньчыкі сталі бліскаць ужо і з другога боку дарогі. Што рабіць?!

Сымонка з усяе сілы лупіў лейцамі ўзмакрэлыя бакі Муські, тая з апошніх сіл імчала галопам, але ваўкі, прапусціўшы вазок уперад на чарговым павароце, кінуліся наўздагон. Жулька ўжо больш не вурчэла, а толькі, паглядваючы назад на дагогу, скаліла зубы і бліжэй прыціскалася да гаспадара. А той, намацаўшы пад сенам торбу з свінымі нагамі, стаў па адной кідаць іх галодным ваўкам. На нейкі момант яны, збіўшыся ў чорны клубок, з віскам і скавытаннем біліся за косткі. Тады Сымонка яшчэ дужэй сцябаў бакі Муські і лейцамі, і пугай, але кабылка ўжо амаль выбілася з сіл.

Сымонка прыкідваў, што да дому заставаўся нейкі кіламетр, усяго адзін паварот, і згінуць тут самому, згубіць кабылку было б недарэчным. Ен бачыў, як гаруюць у іх вёсцы дзеці, бацькі якіх не прыйшлі з вайны, і ведаў, што і для сыноў, і для Ганулькі ён — адзіная апора. Ды й без кабылкі яго сям’я не пражыве: і агарод араць, і па сена ехаць, і па дровы…

Кабылка ўжо колькі разоў спатыкалася, кідаючы з-пад капытоў у твар мерзлыя камякі снегу, і Сымонка ў думках падрыхтаваўся да горшага. Праўда, былі ў яго ў кішэні запалкі ды самаробны нож на сырамятным раменчыку. Але ж гэтым не абаронішся: пры такім галопе паліць сена і кідаць яго з саней было позна ўжо. Рукі дрыжэлі і без гэтага, а сэрца калацілася так, быццам не Муська, а ён сам бег галопам з санямі.

— Жулька, міленькая, — паклаў ён руку на цёплую галаву сучачкі, — выручай. Ну, не паміраць жа мне тут у лесе. Ну, Жулечка… Ахвяруй сябе. Ты ж мая заступніца…

А тая, дрыжучы ўсім сваім дробным сабачым целам, толькі ціснулася бліжэй да Сымонкі. Гаспадару да камяка ў горле было шкада сабачанё, але нічога іншага не заставалася, як піхнуць Жульку з саней і аддаць яе ваўкам. Ад гэтай думкі Сымонка аж сам жахнуўся, быццам гэта яго ўжо цапнуў шэры разбойнік, і зняў руку з сучачкі. Але ваўкі былі ўжо амаль за дваццаць крокаў ад саней. Двое большых з іх імкнуліся забегчы наперад, каб адным кідком зваліць кабылку, учапіўшыся ёй у горла. Сымонка ведаў, што ваўкі менавіта так, сабраўшыся ў зграю, рэжуць коней ці хворых старых ласёў.

Глытаючы слёзы, ён у апошні раз пагладзіў Жульку па загрыўку, адчуў, як натапырылася там шэрсць, і, сціснуўшы зубы, усхліпваючы, усё ж спіхнуў яе з саней, як яна не ўпіралася лапкамі.

Быццам адчуўшы нейкую палёгку, Муська рванула наперад з новай сілай.

Сымонка не азіраўся назад — не мог. Ён чуў толькі рык і віск воўчай зграі, якая, накінуўшыся на Сымонкаву ахвяру, нарэшце адстала ад саней.

Наперадзе паказаліся агні вёскі. Там ва ўсю брахалі сабакі, відаць, здалёк чулі ваўкоў.

А дома яго сустрэў Сцяпан, які выбег з хаты, каб дапамагчы распрэгчы мокрую Мусю.

— А мама нам нарадзіла дзяўчынку, — ні аб чым не здагадваючыся, з радасцю паведаміў сын. — Я сам за Хвядорай бегаў.

Сымонка, не распранаючыся, кінуўся ў хату і паваліўся жонцы ў ногі.

# Рэп кастрычніка



Алесь ЗАМКОЎСКІ



Фота calor.com

***

*празрыстая плёнка*
*глыбокай дзвінскай вады,*
*салёнай ад крыві гісторыі,*
*вострай ад кавальскага жалеза.*
*пад гэтай плёнкай*
*я ляжу і здымаю*
*выключна рухомае,*
*і натую тое,*
*што дрыжыць нада мной.*
*гукі і рухі*
*наўкола.*
*унутры — цішыня.*
*і рыбы казычуць тонкімі хвастамі*
*пяткі, хрыбет і патыліцу.*
*зрэдку побач слізгае паплавок,*
*яшчэ радзей човен,*
*хоць заўсёды ў ім адны і тыя ж:*
*бацька, маці, іх сын, ягоны сабака.*
*я міргаю хлапцу — ён*
*мазолістай далонню б'е па вадзе.*
*я кажу, і словы ў бурбалках*
*ціхмяна лятуць наверх.*
*паветра іх раздзірае,*
*да сябе забірае.*
*я не ведаю, колькі часу ляжу,*
*але ведаю, што не ўзнімуся.*
*бо святло без дзвінскай плёнкі*
*спапяляе вочы і сушыць голас.*
*бо ўжо ледзь чутна песня сабакі,*
*шоргат стырна,*
*рогат хлопчыка,*
*замова маці.*

***

*туманнае мора нас расплавіць*
*змяшаныя з мікракроплямі холаду*
*паплывуць над горадам пустым*
*нашыя позіркі*
*скрозь апошнія сны*
*скрозь непатрэбны ліхтарны бляск*
*да скверу, дзе нічога*
*не адбылося*
*ля сухога фантана*
*залітага цёмна-барвовай*
*старой крывёй лісця*
*адзінкавыя птушыныя галасы*
*прачытаюць*
*над намі*
*унутры нас*
*між намі*
*скрозь нас*
*рэп*
*верасня кастрычніка лістапада*
*адсутнасць ветру адгукнецца*
*джазавым зляднелым стогнам*
*богам не будзе сонца*
*адтулінай нябеснага даху*
*які не жадае нас*
*а толькі маўклівых зрэнак*
*сэрцаў у руках*
*слядоў на камянях*

***

*на самай простай паперцы*
*горшай за аўтобусны квіток*
*шэрай і абадранай*
*ветрам кастрычніцкім*
*усяго некалькі безнадзейных радкоў*
*усяго дзве кроплі шчырасці*
*адна на правую руку*
*другая каля сэрца*
*але снайпер з мяне ніякі*
*і гарбаты я не згатаваў*
*гляджу з тэатральнага дзота*
*зрэдчас руку выцягваю*
*каб дакрануцца да мокрага асфальта*

***

*у «хуткіх дапамогах»*
*якія жарсна гудуць*
*у аўтобусах*
*якія супыняюцца і мінаюць*
*у задушлівых маршрутках*
*у трамваях штоззяюць іскрамі*
*у жоўта-чорных саламандрах-таксі*
*ды іншых*
*назаўжды незнаёмых аўто*
*бачу сваё люстраванне*
*мігценне памкненне нараджэнне*
*і скон*
*бачу крыва і крыху крывава*
*спакойна і тужліва*
*бачу і пазнаю*
*не хачу пазнаваць але бачу*
*тысячы (не)сваіх жыццяў*
*подыхаў-позіркаў*
*невылічальную колькасць рухаў*
*я жадаў дакрануцца да аднаго*
*а мне закрычалі: куды ты прэш*
*ідыёт*
*здаецца так*
*не памятаю не паспеў занатаваць*
*бо прачнуўся ад шэпту*
*твой прыпынак*
*наступны*

***

*не збягай*
*нават не спрабуй збягаць*
*нават не думай*
*што можаш збегчы*
*як бы хутка не змяняліся*
*дрэвы вакол*
*як бы хутка не мільгалі*
*камяні пад нагамі*
*не вер*
*усё што павінна адбыцца*
*так ці інакш*
*будзе*
*дагоніць цябе*
*і набытыя кветкі*
*стануць попелам*
*і новыя кеды*
*сатруць падэшвы*
*ты будзеш сустракаць*
*наканаванае*
*стомленым збітым*
*зняважаным збянтэжаным*
*не збягай*
*вастры меч*

***

*спакусліва адпачываюць*
*цыгарэты на падваконні*
*белыя атрутныя смочкі*
*бездань абгарэлыя абрысы горада*
*праглынае*
*скрозь цішыню прабіваецца*
*метранамічная арыя цягніка*
*у сугуччы з хорам рэльсаў*
*халоднае шкло*
*на троне сметніцы*
*сядзіць малады верабей*
*побач котка з гарачымі*
*кіпцюрамі целаахоўніка*
*з кустоў бэзу*
*адным блазнерскім вокам*
*назірае сабака*
*урэшце неба парэзала*
*сабе твар дурной усмешкай*
*запалкі склаліся*
*ў даўно разгаданы рэбус*
*каб запальнічка зайздросціла*
*пальцы соладка дрыжаць*
*калі б пісаў атрамантам*
*то аркуш мой*
*упрыгожылі б чорныя дзіры*
*як уночы*

***

*зямля*
*на якой гараць храмы*
*зямля*
*у якой ляжаць чарапы*
*прабітыя крыжамі*
*зямля*
*на якой дзеляць адвечнае*
*але не здольныя*
*праспяваць пачутае*
*зямля*
*з якой выціскалі ваду*
*і частку ўсё ж выціснулі*
*зямля*
*дзе нулі ёсць нечым*
*і мала для каго нічым*
*зямля*
*на якой завостраныя іклы*
*не перакрываюцца*
*цнатлівымі ўсмешкамі*
*зямля*
*якая заўжды парываецца*
*стаць новай*
*нават пад ўладай наўя*

***

*ты не можаш сказаць ні слова*
*не таму, што рот завязаны*
*не таму, што не хочаш размоў*
*ці абрала ў жыцці маўчанне*
*голас знік*
*ты гукаеш яго па завулках*
*і вуліцах горада*
*ты шукаеш у кубачках кавы*
*у шклянках з соллю і содай*
*выглядаеш яго між зор*
*між абокаў*
*між хмар і маланак*
*я на пошту іду*
*каб адправіць для цябе*
*свой шурпаты голас*
*кожны гук у асобнай абгортцы*
*вось галосныя*
*вось санорныя*
*у куточку — у нескладовае*
*дж і дз*
*і вядома — мяккасць*
*паштальёнцы кажу:*
*асцярожна*
*не паблытайце тут нічога*
*гэта ўсё дзеля той*
*што голас свой згубіла*
*ёй патрэбна*
*а я патрываю*
*ды й навошта мне гэты голас*
*калі ёй не магу сказаць*
*прашаптаць*
*прастагнаць*
*мой голас — неадладжаны інструмент*
*а ў яе ўсё атрымаецца*
*яна зможа адаптаваць пад сябе*
*усе мае гукі*
*сам паеду ў парк гарадскі*
*веру: там яе голас*
*між галін пераплецены траўнем*
*у шуме халоднага ветру*
*у спевах птушак-самотніц*
*у гудзенні атракцыёнаў*
*у дзіцячых дурных галасках*
*і ў нашых маўклівых размовах*
*пакладу у пасылку з галасам*
*толькі адно напісанае слова —*
*вазьмі*

***

*дождж цячэ па небе*
*да лініі гарызонту*
*худнеюць і святлеюць хмары*
*пераўтвараюцца*
*ў звычайныя травеньскія аблокі*
*а зямля запаўняецца безданню*
*а зямля робіцца суцэльнай глыбінёй*
*без межаў без законаў*
*без тонкіх адчуванняў*
*без вынаходніцтваў і пошукаў*
*ты ўглядаешся ў сутнасць бездані*
*каго ты бачым там?*
*сябе мяне магчыма нас*
*каго ты хочаш там убачыць?*
*нас мяне сябе магчыма*
*у вачах тваіх не стае*
*ні цемры ні святла*
*не маеш сілаў зазірнуць*
*за межы бездані*
*пякельны холад працінае*
*распаўзаецца*
*па венах па руках*
*па вуснах*
*холадам залітыя вочы*
*не бачаць бездані зусім*
*пустыя вочы*
*глыбінёй не запаўняюцца*
*ніякага дажджу на іх не хопіць*
*ніякай солі*

***

*словам адным*
*дрэвы выдраць з зямлі*
*птушкам няма дзе спяваць*
*а звярам — хавацца*
*выцягнуць карані*
*і скласці вялізнае вогнішча*
*хай выгарае ўсё, што было*
*астатняе сонца дапаліць*
*з зямлі вецер жывое павыдзімае*
*не застанецца крыві*
*рухаў*
*подыхаў*
*толькі пясок*
*жоўты пясочак*
*са смакам шэрага попелу*
*ёсць дзе цяпер напісаць*
*тонкім пальчыкам*
*адзінае слова*

***

*не даехалі да парку*
*можа таму і не змаглі перамагчы*
*сумных амбіцый*
*умоўных дыстанцый*
*цягніковых раскладаў*
*грамадскіх парадаў*
*першамайскіх дажджоў*
*дзён — пакутных смаўжоў*
*коцікаў на вярбе*
*і саміх сябе*
*толькі напрыканцы*
*знашоўся аўтобус*
*што мог адвезці да перамогі*
*але позна было*
*не паехалі*

***

*каву пераліваю ў бутэльку*
*уяўляю што гэта віно*
*у святле адзінокай свечкі*
*выглядае амаль што гэтак*
*звыклы чорны саладкі напой*
*дазваляе адбыцца ілюзіі*
*вырашае што мае права*
*усё прыдумаць вакол*
*да кропкі*
*па збялелых маленькіх руках*
*прапаўзаюць зялёныя змейкі*
*у вачах за пякельнай віхурай*
*надыходзіць бяздонны спакой*
*невычэрпная горкая далеч*
*барада адрастае сама без дазволу*
*кляпам горла пераціскае*
*нерухомы язык-ідыёт*
*ўсе пярсцёнкі*
*робяцца хутка*
*дадатковымі пальцамі*
*у скронях сплявае і гіне*
*слова першае слова другое*
*слова нейкае невядомае*
*я адзін паглынаю ноч*
*ліхтары, камароў і хмары*
*у віне патанае агонь*
*я запальваю тонкі кнот*
*той вены што вядзе наўпрост*
*да сэрца*

# Шчодрая кішэня



Аксана КРАЦЮК

***Аксана Крацюк — украінская дзіцячая пісьменніца. Нарадзілася ў 1969 годзе ў Луцку. Скончыла Кіеўскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Драгаманава. Літаратурны рэдактар часопіса «Малятко». Намеснік старшыні Творчага аб'яднання дзіцячых пісьменнікаў Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Лаўрэат шматлікіх літаратурных конкурсаў. Аўтарка кніг «Вясёлыя яноты», «У заапарку», «Прыляцела птушачка», «Рукавічка для носа», «Сабачка Чапа» і інш. Жыве ў Кіеве.***

## Вішнёвы дождж

У адным мястэчку адбыліся незвычайныя прыгоды. Інačай як дзівам іх не назавеш. Было сабе мястэчка як мястэчка. І дзень стаяў звычайны. Пагодны, сонечны. Ды вось на небе з'явіліся хмаркі. Яны патроху цямнелі, цяжэлі… І пайшоў дождж. Але — дзіва дзіўнае! — з хмараў падалі не кроплі, а найсапраўднейшыя вішні!

Пэўны, што вы і на хвілінку не ўявіце сабе таго галáсу і весялосці, таго верашчання і там-тарараму, які распачаўся на вуліцах. Дзеці пішчалі і скакалі, спявалі вясёлыя песні. Некаторыя ад радасці станавіліся на рукі і скакалі, куляючыся, а наеўшыся ягад дасхочу, пачалі з імі гуляцца. Дзяўчаты пачаплялі сабе вішнёвыя завушніцы. А хлопчыкі цалялі вішнямі з рагатак ды цацачных пірацкіх пісталетаў. І ўсе разам намагаліся вішнямі жангляваць. Кашулькі і нагавічкі, сукенкі і спаднічкі — усё адзенне стала чырвона-плямістым і неспадзявана вясёлым. Асабліва смешна выглядалі паважныя працаўнікі офісаў: іхныя суворыя спраўныя строі раптам быццам ружамі расквітнелі. Тым часам гаспадыні пахапалі друшлякі, міскі ды кубкі і кінуліся лавіць вішні: бо гэта ж цудоўная начынка на пірагі і штрудзелі. Адна мажная цётачка, якая страшэнна любіла вішнёвае сочыва, схітравала: яна выставіла ў шэраг пад будынкам восем рондаляў, каб усе яны напоўніліся ягадамі. Ейны сусед, дасціпны насаты дзядок, прыцягнуў вялізную балею проста пад вадасцёкавую трубу хаты і, падкасаўшы нагавіцы, скакаў, як хлопчык, цешачыся, што ў яго будзе цэлая балея вішнёвай наліўкі.

Уважная прадавачка марозіва адразу ж адчыніла накрыўку свайго апетытнага фургончыка — каб ягады пáдалі проста ў марозіва.

— Вішні ў марозіве! Марозіва ў вішнях! — натхнёна выгуквала яна і частавала ўсіх мінакоў, не беручы з іх грошай.

А вішнёвы дождж усё ішоў ды ішоў. У вішнях былі ўжо і вуліцы, і дахі будынкаў. Яны чапляліся на галіны дрэваў і кустоў, падалі ў кодабы машынаў, у торбы і кошыкі мінакоў. Маленькі фантан, які стаяў на цэнтральнай плошчы, ажно засы́пала, і ён весела гуляўся вішнёвымі струменьчыкамі. Усе мястэчкоўцы цешыліся, усе радаваліся і смяяліся. Нават каты і сабакі, хаця яны і ўсміхацца не ўмелі. Адным словам, весялосці канца-краю не было. А ўсялякая праца рабілася жвава і спрытна. Здавалася, так было заўсёды. Ды раптам дождж перастаў ісці. Ён скончыўся гэтаксама неспадзявана, як і пачаўся. Збітыя з панталыку жыхары мястэчка прыціхлі і, пазадзіраўшы галовы, запытальна глядзелі ў неба. І тут усе ўзгадалі пра бабулю-знахарку, якой было сто гадоў, якая ведала безліч розных замоваў і ўмела наклікаць дождж. Бабуля і сама згадала пра свой чароўны талент і, седзячы насупраць вялізнага рондаля, уже прамаўляла да неба: «Ідзі, ідзі, дожджыку, звару табе боршчыку!..». Ды на боршч вішнёвы дождж ісці не хацеў. Бабуля скрушна хітала галавою і пачынала спачатку. А мястэчкоўцы глядзелі на яе з надзеяй. Гэта трывала гадзіну ці, можа, дзве. Ці паўтары. Словам, усе добра прагаладаліся. А чары бабулі ўсё не дзейнічалі. І старэнькай было вельмі сумна, бо што ж яна магла сказаць у абарону сваіх уменняў, якія ўпершыню за ейнае доўгае жыццё не спрацавалі?

Ажно тут з бібліятэкі выйшаў з торбачкай кніжак сямігадовы хлопчык. Ён адзін-аднюткі прапусціў вішнёвы дождж. Сядзеў сабе ў чытальнай залі і чытаў. Чытаў пра незвычайныя прыродныя з'явы, якія зусім рэдка, але здараюцца. І пра незвычайныя дажджы, якія могуць выпадаць зернем, лісцем, ягадамі альбо нават рыбай ці апельсінамі. Вядома ж, усё тое не расло ў небе: моцным ветрам ці віхураю яно было ўзнятае ў паветра з зямлі і перанесенае ў іншыя месцы, дзе і падала вось такімі дзіва-дажджамі. І калі пра гэта апавёў сямігадовы хлопчык, усе адразу запаважалі яго не менш за стогадовую бабулю-знахарку. А бабуля, прытуліўшы малога, з палёгкай уздыхнула.

## Сябра

Андрэйку заўсёды хацелася мець каточка. Каточак такі цудоўны. Ён мякенькі, пухнаты. Калі ён п'е малако, язычком, як млынком, меле. Хутка так: толькі лык, лык — і ўжо спадачак парожні. Смешна так. Каточак спіць, згарнуўшыся клубочкам. Калі ты сядзіш, ён заскоквае табе на калені і лагодна горнецца, вуркоча: просіць, каб пагладзілі. А потым зноў спіць.

Гэх, добра мець каточка. Ды як Андрэйка маму ні прасіў, як ні намаўляў — мама не, хоць плач.

Неяк гуляўся Андрэйка ў двары. Раптам чуе: мяўкае хтосьці, так жалобна. А хто ж можа мяўкаць, як не каточак? Андрэйка зірк туды, зірк сюды — так і ёсць: каля суседняга пад'езда кацяня, ходзіць як беспрытульнае, ды так ужо мяўкае, нібы плача. Стаў Андрэйка над ім, глядзіць. Хоча на рукі ўзяць — не насмельваецца. Мама забараніла. Аёй! Вось бы таго каточка ды дахаты. Вось бы ж яму дазволілі. Ды не, мама не дазволіць. Андрэйка ведаў гэта.

Думаючы горкую сваю думу, ён не заўважыў, як падышоў дзядуля. Дзядулю гэтага ён не раз бачыў. І ведаў, што жыве старэнькі тут, блізка, у іхнім жа будынку.

— Добры дзень добраму таварыству! — усміхнуўся дзядуля. — А хто гэта тут прыбіўся да нас?

— Каточак, — кіўнуў на каточка Андрэйка. — Шукае, у каго жыць.

— Вось яно што… — узняў бровы дзядуля і задуменна паглядзеў найперш чамусьці на Андрэйку, пасля на каточка.

— Цябе, хлопча, як завуць? — спытаў ён.

— Андрэйка.

— А мы, Андрэйка, напачатку гэтага каточка пакормім. Бо голад, як той казаў, не цётка.

Дзядуля сеў на лаўку, дастаў з торбы пакет малака і стаў уважліва разглядацца навокал.

— Вядома ж, ніхто тут нашаму каточку місак-талерак не наставіў, сапраўды ж? — падсумаваў дзядуля. — А што, калі ты, Андрэйка, заскочыш дахаты і папросіш у мамы нейкі шчарбаты спадачак ці бляшанку з-пад рыбы?

— Не-е, — хутка заматляў галавою Андрэйка, — мама насварыцца, што я прыблуднага ката чапаю.

— Ну, то сядзі тут, а я зараз — Дзядуля паставіў пакет на лаву, пачухаў каточка за вухам і, падхапіўшы сваю торбу, знік у пад'ездзе. За імгненне ён ужо налівац малако ў сподак.



Малюнак Алесі Магероўскай

Каточак, хоць і зусім яшчэ малы, пэўна, быў разумны. Ён адразу ўцяміў, што дзядуля і Андрэйка свае людзі. Бо спярша абышоў Андрэйку, лагодна пацерся аб ягоныя ногі. Тады прыгнуў голаў пад дзядулеву руку, каб той яшчэ раз яго пагладзіў. І толькі пасля прагна ўзяўся за малако.

Андрэйка не зводзіў з каточка вачэй. Насёрбаўшыся ўволю, той, валюхаючыся, пайшоў да лавы, ды, не ўтрымаўшы на танюткіх лапах пацяжэлае чэрава, падаўся ўбок і на паўдарозе ўсеўся. Дзядуля і Андрэйка засмяяліся. Андрэйка не ўтрымаўся і пагладзіў каточка.

— Гэта ты, пакуль мама не бачыць? — спачувальна запытаў дзядуля.

— Не, я забыўся, — адказаў Андрэйка.

Ён і сапраўды забыўся на забарону мамы — так яму было добра каля каточка і дзядулі.

— Ды яно так, — кіўнуў галавою дзядуля, — але мусім вырашыць, Андрэйка, як нам з гэтым зверам быць.

Андрэйка ўздыхнуў. Што ён мог сказаць? Мама сцвярджае, што жывёле не месца ў кватэры. Але ж у Дзяніса кот ёсць, і ў Слаўкі ёсць. Дый хіба толькі ў іх?

«Ката трэба дагледзець — не толькі гуляцца з ім», — сувора кажа мама. А хіба ж ён, Андрэйка, хоча толькі гуляцца? Ён і хоча дагледзець, дбаць, быць сябрам. А мама не верыць. Гэх, прыкра.

«Кот будзе рабіць шкоду», — сцвярджае мама. А маленькія дзеці хіба не робяць шкоды? Вось у Ярынкі брат малодшы. Дык ён ёй альбом падраў. А яшчэ, было, міску пабіў. І ўсе яго любяць, бо ён маленькі, не разумее яшчэ. Менавіта так і каточак. Яго таксама можна любіць.

— Слухай, — далячэў да Андрэйкі голас дзядулі, — я даўно пра ката марыў. Ты, здаецца, таксама?

— Ага, і я даўно, — кіўнуў Андрэйка.

— Дык возьмем гэтага ката на дваіх.

— Гэта як? — разгубіўся хлопчык.

— А вось так: будзе жыць ён у мяне, а даглядаць будзем удвух. І запытаем у тваіх таты і мамы дазволу. Каб усё сумленна было.

З тых часоў мінула шмат гадоў. Андрэйка даўно вырас. Ды і дасюль яскравее ў ягонай душы ўспамін пра хударлявага сівога дзядулю, які жыў у суседнім пад'ездзе. І пра каточка, які дапамог яму знайсці сапраўднага сябра.

## Шчодрая кішэня

Цётачка Леся пачаставала Тарасіка жменькай цукерак. Тымі кругленькімі, якія гарошкам называюць.

Хлопчык падзякаваў за пачастунак і паклаў яго ў кішэню. А ў кішэнях — вы ж ведаеце! — заўсёды ўсяго багата: там і цвічкі ды шрубочкі, і фанцікі-банцікі, гладзенькія шкельцы, і каляровыя каменьчыкі. Ды хіба толькі гэта! Як той казаў, у добрага гаспадара кішэня без дна.

Так гэта ці не так — не ведаю. Але ў нашага Тарасіка менавіта такая кішэня і была. Незаменная кішэня — на ўсё прыдатная. І саладзенькі гарошак ён усыпаў туды, не задумваючыся.

Ды не ведаў у той момант Тарасік, што ў ягонай кішэні адна навіна — дзірка. Учора ён прыхапіў з паліцы маміну пілачку на пазногці. Дык тая шкодная пілачка гэтую «навіну» і зрабіла. Салодзенькі гарошак у кішэні напачатку выпацкаўся, а пасля паціхеньку ў дзірку і павыпадаў.

Адну гарошыну знайшла мурашка. Пашкандыбала да мурашніка, прывяла сваякоў — і яны ёю паласаваліся.

Другую цукерку знайшоў смоўжык. З аднаго боку пакаштаваў, з другога, вакол абышоў: вось неспадзяванка — з усіх бакоў салодкая.

Яшчэ адну цукерку сарока ўгледзела. Ухапіла яе з травы:

— Ты глядзі, якая смачная пацерка! Век звекавала — такой не траплялася. Дый з'ела яе, здзіўляючыся.

Гусак сунуўся сцежкаю.

— А што гэта такое: ці то гарох, ці фасоля, га? А хто такое дабро тут насеяў, га? Га-га-га?

А Барсік нічога ні ў кога не пытаў. Струшчыў усе цукеркі, якія знайшоў, і смачна аблізаўся.

Тым часам Тарасік узгадаў пра цётчын пачастунак. Руку ў кішэню — а яго ў ёй нямашака. Ды чаго яму перажываць: багата каго пачаставала ягоная шчодрая кішэня.

## Самалёцік

У дзень Святога Валянціна Максім прыйшоў у школу з папяровым самалёцікам. На ягоным крыле выра́знымі друкаванымі літарамі было напісана: «Найлепшае ў свеце імя — Палінка». Подпісу, вядома ж, не было. «Няхай яна ніколі не здагадаецца, што гэта напісаў я, — цвёрда казаў сабе Максім. І быццам усе ён, а нехта іншы, уздыхаючы, дадаваў: «Гэх, а лепей бы здагадалася…».

Максім сеў за сваю апошнюю парту і чакаў, калі Ніна Іванаўна загадае ўсім развязаць задачу. А калі ўсе схіліліся над сшыткамі, ён ціхенька дастаў самалёцік, яшчэ раз прачытаў свой надпіс, яшчэ раз зірнуў на Палінку, уздыхнуў і… хуценька шпурнуў самалёцік ёй на парту. Ляцець было тры секунды: парта Палінкі ў суседнім шэрагу наўскасяк. Але самалёцік зрабіў нейкую мудрагелістую пятлю, пайшоў у піке і ўпаў проста перад носам у Дзяніса. Дзяніс адразу пакінуў задачу і стаў зацікаўлена яго разглядаць.

Максіму з тае неспадзяванкі ажно горача стала. Ён апусціў галаву і спадылба сачыў за Дзянісам. Дзяніс тым часам энергічна агледзеў клас, тады дастаў з пенала чырвоную асадку, перакрэсліў у слове Палінка літару «П» і зрабіў вялікай «А».

Але Алінка, якая сядзела на другой парце, самалёцік з сэрцайкам на крыле не атрымала. Самалёцік зноў выпісаў у паветры дзіўны піруэт і гэтым разам упаў на парту да Віці.

Віця быў ціхім і сарамлівым хлопцам. Ён ніколі не наважыўся б напісаць дзяўчынцы такую цыдулку. А тут вось сабе маеш — цыдулка сама ўпала з неба. Хвіліна смеласці агарнула Віцю з галавы да ног. Ён упэўнена перакрэсліў у слове «Алінка» літару «І» і напісаў згары літару «е». «Цяпер усё чысцюткая праўда, — сказаў сабе Віця. — Аленка — найлепшае ў свеце імя». І ён выправіў самалёцік убок цераз шэраг. Менавіта там сядзела Аленка.

Чырвонае сэрцайка на белым крыле зноў узнялося ў паветра. Але да першага шэрага парт не даляцела. Гэтым разам самалёцік выкрунтасаў не рабіў. Ён плаўна сеў у другім шэрагу на Палінінай парце.

Максім, які назіраў за ўсімі гэтымі пералётамі і бессаромнай пэцканінаю па ягоным надпісе, ледзь не кінуўся, каб выхапіць самалёцік з рук Палінкі. Ды стрымаўся. А Палінка перакінула праз плячо сваю русявую коску, перацягнутую блакітнай кветачкай завязкаю, і пачала ўважліва разглядаць надпіс на крыле. Ён хоць і быў двойчы выпраўлены, ды чытаўся добра. Сэрцайка на крыле ёй, відаць, спадабалася. Бо інакш чаго б яна азірнулася і так цёпла ўсміхнулася Максіму.

***Пераклад з украінскай мовы Альжбэты МАЛІШЭЎСКАЙ-СПРЫНЧАН.***

# Рыцар гістарычнай літаратуры: Уладзімір Случанскі

Бадай, самы чытэльны беларускі твор, напісаны на эміграцыі ў XX стагоддзі, — гістарычны раман Уладзіміра Случанскага «Дра́бы», апублікаваны напрыканцы 50-х гадоў у далёкай Аўстраліі. Аднак як пра яго аўтара, так і пра сам раман у нашай метрапольнай перыёдыцы (а тым больш у навуковых выданнях) доўгі час гаворкі не вялося...

Уладзімір Случанскі (сапраўднае прозвішча Шнэк) нарадзіўся 23 сакавіка 1927 года ў Менску. З 1933-га сям'я жыла ў Ленінградзе, дзе бацька пісьменніка — Сцяпан Міронавіч — вучыўся ў Ваенна-палітычнай акадэміі. У Ленінградзе У. Случанскі пайшоў у школу, аднак у 1936 годзе бацька атрымаў накіраванне ў Забайкальскую вайсковую акругу, і сям'я мусіла ехаць у Чыту. Праз два гады Сцяпана Міронавіча выключылі з партыі і звольнілі са службы.

Было вяртанне на Радзіму бацькоў, у Слуцк. Маці — Яўгенія, у дзявоцтве Даўгалевіч — займалася па гаспадарцы, Сцяпан Міронавіч уладкаваўся на працу ў школу, дзе і працягвалі вучобу два сыны Уладзімір і Алег ды падрастала дачка Ліна...



Малодшы брат пісьменніка Алег Шнэк (1930 — 2005)

У 1945 годзе будучы пісьменнік патрапіў у «лагер для перамешчаных асоб» англійскай зоны. Там сабралася ўся сям'я Шнэкаў. Уладзімір працягваў вучобу ў беларускай гімназіі, дзе родную мову і літаратуру выкладаў паэт-эмігрант Хведар Ільяшэвіч. З ягонага «хрышчэння» Уладзімір і напісаў сваё першае апавяданне «У вагні» (пад псеўданімам У. Случанскі было змешчана ў лагерным часопісе «Шляхам жыцця» (1947). У новых апавяданнях «Не прапусьцім», «Пётр Фёдаравіч ня верыць» празаік апісваў трагічнае сучаснае Беларусі, станавіўся летапісцам абрабаванай Бацькаўшчыны, абаронцам нацыянальнага.

У. Случанскі выдаваў у Нямеччыне часопіс «Нашы ветразі», арганізоўваў беларускі скаўцкі рух, а ў 1950-м выехаў у Аўстралію. Працаваў на фермерскай гаспадарцы, пакуль не асталяваўся ў Мельбурне. Актыўна займаўся нацыянальнай грамадскай справай, выдаваў часопіс «На варце» і гумарыстычны дадатак да яго «Ёрш». Скончыў Каралеўскі інстытут тэхналогіі ў Мельбурне.



Уладзімір Случанскі (У. Шнэк), 90-я гг.

З 1989 года — на пенсіі. Наладжваў сувязі з Бацькаўшчынай: дапамагаў накіроўваць на адпачынак у Аўстралію беларускіх дзяцей з Чарнобыльскай зоны, даваў кансультацыі пры арганізацыі музея ў Слуцку, у 1993-м наведаў Беларусь, быў удзельнікам Першага з'езда беларусаў свету, выступіў з прамовай.

Памёр у Аўстраліі 3 лютага 1995 года, пахаваны ў Карынгтоне...

Як празаік Уладзімір Случанскі найбольш каларытна раскрыўся ў гістарычных жанрах — аповесці пра полацкага князя Расціслава «Братчына» і рамане «Дра́бы».

Як сведчыць аўтар прадмовы да першага выдання кнігі «Драбы» (Мельбурн, 1958) С. Пасечны, У. Случанскі задумваў напісаць гістарычную трылогію. (На жаль, недаступнасць аўстралійскіх архіваў пісьменніка не дазваляе меркаваць пэўна, ці спраўдзіліся ягоныя задумы, бо і на апошняй старонцы кнігі «Драбы» пазначана: «Канец першай часткі».) Аднак і першая частка «Драбаў» выглядае цалкам самастойным, ідэйна, кампазіцыйна і сюжэтна завершаным творам.

Абраўшы за ідэал служэння Радзіме дзейнасць князя Вітаўта, У. Случанскі старанна і займальна выпісаў яго гістарычную постаць, а таксама ягоных слаўных аднадумцаў і сяброў — рыцараў Пагоні, якіх у старадаўнасці менавалі *дра́бамі* (аснова, касцяк). Аднак, што паказальна, У. Случанскі не робіць Вітаўта галоўным героем і асноўнай дзейснай асобай рамана. На працягу ўсяго аповеду яго кампазіцыйным і сюжэтным «счапленнем» становіцца выдуманы аўтарам вобраз ваяводы Фёдара Грозаўскага, яго гераічныя дзеі на карысць Бацькаўшчыны, асабістае жыццё гэтага драба (гісторыя кахання).

Ахоп падзей у рамане «Драбы» вызначаецца «ілюстрацыйнай» эпічнасцю. Дэталёва апісана жыццё прадстаўнікоў розных катэгорый грамадства XV стагоддзя: прасталюдзінаў з-пад Слуцка і Капыля, панцырных баяраў, драбаў Вялікага Княства Літоўскага (капітана літоўскіх лучнікаў пры двары караля Ягайлы ваяводы Пашкевіча, крэўскага ваяводы Станіслава ды інш.), польскай знаці (пана Ежы з Чэрвіцы), а таксама мечаносцаў крыжацкага ордэна (камандора ордэна Фрыдрыха фон Кройцэнберга ды інш.).

Твор У. Случанскага вызначаецца і шырокай геаграфічнай панарамнасцю: старадаўні Слуцак — Кракаў — Берасце — Тураў — Полацак — Камянец — Наваградак — і зноў Слуцак.

Раман «Драбы» мае яскрава выражаную нацыянальную ідэю, адстойвае думку пра адметнасць і незалежнасць беларуска-літоўскіх земляў. Нацыянальная гісторыя ў творы У. Случанскага грунтуецца большасцю на дакументальных фактах. Але пісьменнік творча выкарыстоўвае і свае права на мастацкае «дадумванне». Выкрываючы інтрыгі крыжакоў, польскай шляхты і маскоўскіх купцоў-віжоў (вобраз баярына Лукі Рацішчава) на землях Вялікага Княства Літоўскага, У. Случанскі свядома ўступаў у палеміку не толькі з польскімі і расійскімі гісторыкамі, але і з аўтарамі некаторых мастацкіх гістарычных твораў суседніх літаратур. Больш таго, сваім раманам «Драбы» У. Случанскі ўпершыню ў беларускай літаратуры пазначыў галоўныя высновы беларускай гістарычнай навукі XX стагоддзя: сэрца летапіснай Літвы — Наваградак, яно знаходзіцца ў цэнтры сённяшняй Беларусі. А таму можна сцвярджаць, што навуковая канцэпцыя М. Ермаловіча пра месцазнаходжанне летапіснай Літвы і яе мастацкая ілюстрацыя ў беларускай прозе ў рамане Г. Далідовіча «Кліч роднага звона» мелі ў «Драбах» свой першапачатак.

У рамане У. Случанскага ў гістарычнай перспектыве змадэляваны сімвал духоўнага і дзяржаўнага быцця-ўладкавання Літвы-Беларусі — у суладдзі міфалагічнага, язычніцкага і хрысціянскага лёсапачаткаў: «Не па нашым молаце гэты камень, — гаворыць у фінале кнігі пра беларускія землі Вялікі магістр крыжацкага ордэна. — Ярылам ён створаны, Перуном гартаваны, а Збавіцелем душой надзелены!..».

Многія творчыя прынцыпы і прыёмы гістарычнага раманіста, характэрныя для У. Случанскага, узыходзяць яшчэ да мастацкіх адкрыццяў В. Скота. «Драбы» як першы ў беларускай прозе «рыцарскі» раман вальтэр-скотаўскага тыпу стаў паказальным не толькі ў ідэйна-праблемным, але і ў жанрава-стылёвым плане. У. Случанскі цэнтральнае месца свайго твора — як і В. Скот — таксама аддае «сярэднім людзям» (ваяводам, драбам, мужным ваярам, а не князям і каралям). Як і В. Скот, беларускі аўтар апявае мужнасць і духоўныя якасці рыцарства. Як і ў В. Скота, у рамане У. Случанскага вялікая ўвага надаецца камічнаму, іранічнаму (надзвычай ярка і запамінальна выпісаны эпізод прыйма каралём Ягайлам пана Януша з Езёрска, калі апошні збіў пыху польскай шляхце і пану Ежы з Чэрвіцы).

Многія старонкі «Драбаў» чаруюць кантрастна-рамантычнымі малюнкамі і пейзажамі: «Насупілася магутная Прыпяць, забулькатала мацней у прыбярэжных карэньнях са злобай непамернай. Лес ёй у адказ зашамацеў гальлём і заскрыпеў векавымі стаўбурамі волатаў-дубоў, пасылаючы нямы праклён крывавым наезнікам, што парушаюць спрадвечны парадак».



Твор У. Случанскага — познерамантычны, гэта тып рамантычнага «рыцарскага» рамана з шэрагам сцэн жорстка-натуралістычных (забойства сям'і паромшчыка Вадзеніка і пад.).

«Драбы» багаты на алюзійныя адсылкі да вуснай народнай творчасці (песня гусляра ў рамане) і старажытнай беларускай літаратуры — напрыклад, «Слова пра паход Ігараў», пра што могуць сведчыць асобныя цытаты: «Коньнікі Варкулы малоцяць мячамі і сякірамі, як цэпамі на таку, зьбіраючы багаты ўмалот».

Сюжэт рамана насычаны яскравымі фабульнымі эпізодамі: сустрэча ваяводы Фёдара з Марыляй — знікненне Якуба Вадзеніка — двубой ваяводы Фёдара і войта Скабеля — княжацкае паляванне і нечаканыя прыгоды з княгіняй — палачэнне і вызваленне з лёхаў Камянецкага замка ваяводы Фёдара — суд над кіраўніком «апрышак» — вяселле ваяводы Фёдара. Тэмп апавядання вызначаюць драматычныя сутыкненні, развязка якіх адбываецца праз некалькі раздзелаў — з пэўнай затрымкай, што ўзмацняе займальнасць рамана. (Застаецца шкадаваць, што слабей у «Драбах» атрымалася перадача драматызму ўнутранага жыцця герояў — больш эскізнага, пункцірнага.)

...Пры спрыяльным лёсе аўтара і твора раман «Драбы» магла б напаткаць слава беларускага «Рыцара Айвенга» ці беларускіх «Крыжакоў», аднак раман і па сённяшні амаль не прачытаны і тоіцца ў Беларусі ў нешматлікіх кнігазборах ды інтэрнэтпрасторы — як сумная памятка пра нешчаслівую долю беларускай нацыянальнай кнігі і — у той жа час — як годны ўзор-сведчанне яе багатага набытку.

**А. А.**

*Фота з сямейнага архіва пісьменніка, pinterest.com і melbourneaustralia.org.*





Мясціны аўстралійскага Мельбурна, якія напрыканцы жыцця сузіраў У. Случанскі

# Драбы

## Пачатак рамана[1]

Уладзімір СЛУЧАНСКІ

### 1. На лясной дарозе

Нібы праз сіта імжыў восеньскі дождж. Вячорны змрок паволі гусьцеў, зліваючы ўвесь краявід у адну бясксштaлтную масу. Шэрыя хмары звісалі зусім нізка й быццам зліваліся зь зямлёй.

Адзінокі дуб на скрыжаваньні дарог нізка схіліў гальлё, нібы прыгнечаны цяжарам вісельніка, падвешанага ґáкам за рабрыну. Дзьве кароткія стралы тырчэлі ў сьпіне павешанага. Твар, абрамлены рудой барадой, перакошаны ад болю. Доўгія валасы раскудлачаныя, і на іх сьляды запёкшага крыві, як і на ўсёй багатай і прыгожай вопратцы павешанага. Пустая похва мяча й некалькі ранаў на плячах і руках — красамоўна казалі, што дорага прадаў ён сваё жыцьцё.

Цемра згушчалася, цяжка было што-небудзь разабраць навокал... Аднекуль здалёку пачулася воўчае выцьцё, іншае адгукнулася бліжэй, і ўжо зусім блізка ад дубу пракрычаў пугач. Адразу за гэтым пачулася чвяканьне конскіх капытоў па гразі.

Коньнікі хутка набліжаліся да дубу — іх было два. Першы, у блiскучым панцыры, неяк няпэўна сядзеў у сядле, зьвесіўшы галаву, пакрытую шоламам зь пёрамі, на грудзі. Пры сядле, напалову прыкрыты чорным плашчом, віднеўся невялікі шчыт з залатым Ярылавым крыжом і прыгожай срэбнай насечкай. Другі коньнік, таксама ў баёвым панцыры, ехаў трохі адстаўшы і ўвесь час зь непакоем азіраўся, трымаючы лук са стралой напагатове.

Здалёку пачуўся йзноў конскі тупат і гіканьне. Першы коньнік зморана ўзьняў галаву і сарваўшымся голасам паклікаў свайго спадарожніка. Гутарылі нядоўга — драб у бліскучых латах, пры дапамозе свайго сябры, злез з каня й, абапершыся на меч, зірнуў на павешанага.

— Ганí! — махнуў ён рукой.

— Бывай, ваявода! Хай беражэ цябе Ўсемагутны! — пачуўся ў адказ стары й надтрэснуты голас.

Яшчэ раз зірнуўшы на павешанага, ваявода рушыў у цемру, цяжка пераступаючы нагамі й абапіраючыся на меч. Адышоўшы ад дарогі, ён спыніўся й прыслухаўся: стары Бай ужо далёка, амаль не чуваць, затое плясканьне капытоў і гіканьне з другога боку былі ўжо зусім блізка. Ваявода асьцярожна, колькі дазвалялі сілы, рушыў далей, часта спыняючыся й пераводзячы дых. Рана ў левым баку балела й не давала супакою. Ад згубленае крыві ваявода аслаб нагэтулькі, што меч, які ён ужо ці раз хацеў зьмяніць праз ягоную лёгкасьць, цяпер выдаваўся непамерна цяжкім. А бывала, у часе бясьедаў, ваявода, жартуючы, выпростваў конскую падкову. Лёгкі ветрык цяпер хістаў яго, бы кволую саломіну.

Ісьці робіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Сталёвы панцыр цягне ўніз, шпоры чапляюцца за траву й карэньні, імгла засьцілае вочы... Ногі пачынаюць грузнуць і правальвацца, на меч ужо ня можна абаперціся — уперадзе балота... Але спераду чуцён няясны, аднастайны гул. Гэты гул і цягне ваяводу да сябе, толькі гэты гул дае яму сілы, у соты раз зваліўшыся — падняцца й пасоўвацца наперад. Лес — гэта адзіны ратунак, і ваявода гэта добра ведае. Апошняя натуга, і густыя цёмныя шаты зашамацелі над галавой.

Некалькі крокаў у гусьціню лесу, і ваявода ўжо ляжыць пад густой ялінкай, ухутаўшыся з галавою ў шырокі плашч і падклаўшы пад галаву баёвыя рукавіцы. Ня першы раз даводзіцца яму так спаць, і, як ён ведае, не апошні. Нярaз хадзіў ваявода з дружынай Вялікага князя й на крыжакоў, і на маскалёў, і на татараў, але гэтакага, што цяпер здарылася, ня бачыў ніколі. Будзе ён памятаць Ворсклу аж да скананьня: разьбілі татары князёву дружыну. Шмат там палегла драбаў слаўных, рыцараў чужаземных, і князёў літоўскіх, але яшчэ больш нехрыстаў татарскіх. Ад іх крыві аж вада ў Ворскле чырвонаю зрабілася. Аднак не надарма змагаліся дружыньнікі літоўскія, не надарма палеглі яны на полі сечы: няхай і перамаглі там бусурманы, але не адважыліся ўсунуцца далей на землі Княства Літоўскага. Шмат каштавала хану гэтая сутычка зь Вітаўтам. Хан абясьсілеў і не адважыўся йсьці далей, толькі некаторыя ваеначальнікі татарскія зь невялікімі аддзеламі ўрываліся на землі літоўскія, несучы з сабою сьмерць, агонь і гвалт... Шмат чаго яшчэ перадумаў ваявода, але нарэшце страта крыві й сілаў зрабілі сваё: заснуў ён, ня ведаючы, што ад самага пачатку яго пешай вандроўкі за ім сочаць некалькі пар пільных вачэй...

### 2. У Слуцку

Напружана маўчала замчышча. Сівыя муры вежаў і сьценаў з пагрозай паглядаюць навокал. Прадзамкавыя ровы напоўнены вадой, масты паднятыя, з муроў не сыходзіць варта. Дзясяткі вялікіх кашоў напоўнены ядавітымі гадзюкамі, каб пры першай пагрозе выпусьціць іх у ровы — гэта трохі страшней за пасткі й стрэлы. Удзельны князь Слуцкі, са слаўнага роду Алелькавічаў, — у нядалёкім мінулым вялікі зух і нястомны наезьнік, а цяпер ужо стары й аслабелы, сівы, як голуб, рашыў бараніць свой замак, — на той выпадак, калі Вялікі князь будзе разьбіты татарамі. Князь чуў, што татараў ідзе незьлічоная колькасьць, што іх дасюль ня здолеў затрымаць ніхто. Але ўсё роўна даў загад падрыхтавацца да абароны, а аб скланеньні галавы перад ханам не хацеў і слухаць.

— Хто яшчэ запрапануе мне, князю Дрыгвіцкаму, пакарыцца перад ханам і пакінуць у бядзе Гаспадара нашага Вялікага князя Літоўскага, таго галава будзе па татарскім звычаі тырчэць на канцы рацішча, і будзе выстаўлена на ганьбу! — прамовіў князь перад сваёй невялікай дружынай, большую частку якой ён адправіў з ваяводам Фёдарам Грозаўскім на дапамогу Вітаўту.

Пярэчыць яму ніхто не адважваўся, ведалі: у старога слова — мур, сказаў — выканае. Вось каб быў ваявода Фёдар, то ён мог бы й пераканаць князя ў бесэнсоўнасьці такога супраціву — князь яго любіў і слухаў яго парадаў.

Тым часам князь загадаў напоўніць усе каморы збожжам. Нават некалькі пакояў адпусьціў пад харчавыя склады. Замкавы двор напоўніўся быдлам. Стары прадбачаў доўгую аблогу й рыхтаваўся не жартуючы. Яго голас быў чутны ўсюды, ён ведаў законы вайны й сілу голада. Сам няраз быў абложнікам і абложаным і навучыўся асьцярожнасьці ды прадбачлівасьці.

Ужо другі дзень імжыць дождж. Шэрая ймгла засьцілае зямлю й неба. Вільгаць, халодная й непрыемная, пранікае ўсюды: за каўняры, пад плашчы, асядае расой на вусах і барадах дружыньнікаў, сьцякае па кажухах вартавых.

У невялікім Слуцку, абнесеным абароннымі валамі, жыцьцё замерла. Толькі ў кузьнях стук малаткоў ды бразгат жалеза — народ рыхтуецца сустракаць няпрошаных гасьцей. Усё мужчынскае насельніцтва не выходзіць з хаты безь мяча, пернача ці баявой сякеры. Хлапчукі шныраюць усюды, дзе можна раздабыць якую-колечы зброю: стары меч без дзяржака, зламаную дзіду, лук, а шмат хто зь іх ужо апрануў старую прадзюраўленую й заржавелую кальчугу.

Раптам па брукаванай вуліцы зацокалі падковы. Усё, што было жывога, насьцярожылася, рукі ўхапіліся за зброю. Напружана глядзяць твары й з пасівелымі барадамі, і здаровыя вусатыя, і маладыя, і нават зусім яшчэ дзіцячыя тварыкі хлапчукоў-падлеткаў.

Праймчаўся чорны, як воран, конь у напрамку да замка, сядок у баявым панцыры і на шчыце Ярылаў Крыж...

— Свой! — выдыхнулі з палёккай соткі грудзей.

Коньнік, тым часам, даскакаў да замкавых роваў. На вежы прабілі трывогу. Коньнік спыніўся супраць галоўнае вежы й стаў чакаць.

— Хто ты? І чаго хочаш? — прагучэў голас вартавога.

— Пярун і Вітаўт! — адказаў коньнік.

Загрымелі ланцугі, і мост паволі апусьціўся, акутая жалезнымі цьвікамі брама паднялася й упусьціла коньніка ў скляпеністы праход вежы. Зьявіўся сам стары князь са сьвітай і загадаў прыехаўшаму падняць забрала й паказаць твар.

Коньнік завагаўся й прыдушаным голасам запытаўся:

— А не было-б лепей, каб пакуль што толькі Ваша княжая міласьць ведалі, хто я?

Сьвіта зь недаверам пазірала то на князя, то на чужака, некаторыя зь іх ухапіліся за мячы й шчыльней пасунуліся да князя, падазраючы пастку.

— Князь! Ня слухай яго!... Не адсылай нас! — выступіў уперад адзін з прысутных драбаў. — Загадай лепей скруціць яму рукі й даведацца, хто ён такі!

— Ідзіце! Усе! — прагучаў загад.

Калі апошні з вояў выйшаў, коньнік саскочыў зь сядла й укленчыў.

— Княжа, прабач твайму халопу, што не сыйшоў з каня ў тваёй прысутнасьці ды зажадаў заставацца з Тваёй міласьцю сам на сам. Я стрэмяны Твайго ваяводы Фёдара Грозаўскага, — з гэтымі славамі стары Бай зьняў шолам, і густыя сівыя валасы рассыпаліся па плячах, у яго вачах блішчэлі сьлёзы.

— Устань, верны халоп! Я бачу, ня з добрымі весткамі ты прыехаў. Бачу, у цябе пры сядле й шчыт ваяводы Фёдара, нададзены яму Гаспадаром Вялікім Князем Вітаўтам. Дзе ваявода? Забіты? — голас князя дрыжэў.

— Не, княжа, жывы ваявода, але дзе Яго сьветласьць, ня ведаю. Паранены ён, ня мог у сядле трымацца, а бусурманы даганялі, дык пайшоў ён напеша ў лес. Балазе цемра памагла. А я адцягнуў увагу бусурманскіх нехрысьцяў на сябе. Але не надоўга, як ізноў пада мною конь, перасеў я на ваяводавага, а яны, убачыўшы труп каня майго, зразумелі наш хітрык і адсталі. Мусіць, шукаць будуць ваяводу... не адыйдзе ён далёка, цяжкую рану ў баку мае.

Князь выразным жэстам загадаў Баю йсьці зь ім, і абодва зьніклі за дзьвярыма ў княжыя пакоі.

Хутка ўвесь замак і места абляцела вестка: «Вялікі князь даў бой татарам на рацэ Ворскле. Амаль уся Вялікакняская дружына палегла. Рэшткі прабіваюцца ў Полацак і заклікаюць народ па ўсёй Літве ў свае харугвы. Ганцы з гэтым клічам разьехаліся па ўсіх княствах і землях літоўскіх. Але й татары пасьля гэтага пабоішча не адважваюцца йсьці далей».

У цэрквах загудзелі званы, захваляваўся народ, хутчэй загрымелі молаты ў кузьнях. Небясьпека адкрытая рэзала сэрца. «Што будзе далей? Што будзе?», — шаптаў кожны і з надзеяй зварочваў пагляд у бок замкавых вежаў.

Замак маўчаў. Сівы й грозны, ён ашчаціўся зубцамі вежаў і муроў. Вартавыя, як цені, нячутнай хадой безупынна, узад і ўперад, пасоўваліся каля байніц. Нічога не нагадвала на тое, што ў замку зараз кіпіць жыцьцё як у мурашніку: сядлаюцца коні, апошні раз аглядаецца зброя і падымаюцца апошняя кухлі старога пеністага мёду...

Зь лязгатам апусьціўся мост, паднялася брама, пачулася цоканьне падкоў, і некалькі закутых у жалеза коньнікаў з доўгімі дзідамі ўраганам выляцелі з замку. Пранесьліся па бруку места і на поўным скаку, мінуўшы вартавую заставу, зьніклі ў імгле...



Фота kadabra.fun

***Друкуецца ў правапісе арыгінала.***

[1] *Цалкам твор можна прачытаць на knihi.com/Uladzimir_Slucanski.*

## Ганкураўская прэмія

Уладальніцай самай прэстыжнай літаратурнай узнагароды Францыі, Ганкураўскай прэміі, у 2022 годзе стала пісьменніца Брыжыт Жыро (Brigitte Giraud). Яна атрымала прэмію за раман «Vivre vite» («Хутка жыць») і стала трынаццатай жанчынай, якая атрымала гэтую прэмію за 120 гадоў яе існавання.

Кніга Б. Жыро прысвечана смерці яе мужа ў 1999 годзе, у ёй апавядаецца пра ланцуг падзей, якія прывёў да яго гібелі на матацыкле.



Брыжыт Жыро

Фота lejdd.fr

Б. Жыро нарадзілася ў 1960 годзе ў Алжыры, жыве ў Ліёне. Аўтарка раманаў і апавяданняў. Пачала пісаць і публікавацца ў 90-я. У 2007 годзе атрымала «Le prix Goncourt de la nouvelle». Яе кнігі перакладзены амаль на дваццаць моў.

Ганкураўская прэмія ўручаецца ў Францыі з 1903 года. Лаўрэаты вызначаюцца падчас урачыстага абеду ў парыжскім рэстаране «Друан» дзесяццю крытыкамі і пісьменнікамі. Лаўрэатамі ў розныя гады станавіліся Морыс Друон, Марсэль Пруст, Патрык Мадыяна ды іншыя пісьменнікі. Матэрыяльны памер прэміі — 10 еўра, але яе прысуджэнне значна садзейнічае камерцыйнаму поспеху ўзнагароджанай кнігі. Як правіла, наклад выдання перавышае 400—500 тысячаў асобнікаў.

Як запісана ў статуце Ганкураўскай акадэміі, прэмія ўручаецца за «творчае адкрыццё года». Яна можа быць прысуджана аўтару (аўтарцы) толькі адзін раз у жыцці. Адзіным выключэннем з гэтага правіла стаў пісьменнік Рамэн Гары. Першы раз ён стаў лаўрэатам у 1956 годзе, а праз 19 гадоў зноў атрымаў прэмію пад імем Эміля Ажара. Гэтая літаратурная містыфікацыя была раскрыта ўжо пасля прысуджэння прэміі Э. Ажару, за якога пісьменнік «выдаў» свайго пляменніка.

## Прэмія імя Чарнавола

Лаўрэатам украінскай прэміі імя Вячаслава Чарнавола (публіцыста, літаратурнага крытыка, палітычнага дзеяча, Героя Украіны, дысідэнта часоў СССР, заснавальніка Народнага руху Украіны) стаў дацэнт кафедры ўкраінскага друку ЛНУ імя Іван Франко, галоўны рэдактар часопіса «Універсум» Алег Раманчук за зборнік нон-фікшн ваеннага часу «Не бойся. Не здраджвай. Не маўчы».

Пра гэта паведаміла прэс-служба Дзяржкамітэта тэлебачання і радыёвяшчання Украіны. «У зборніку прадстаўлены творы, якія ахопліваюць восем гадоў гібрыднай вайны ва Украіне. Аўтар аналізуе палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя працэсы, даследуе драматычныя і трагічныя падзеі — на фронце, у тыле, у прыватнасці, на полі інфармацыйнай барацьбы. Кніга выйшла ў 2020 годзе ў львоўскім выдавецтве "Універсум"», — гаворыцца ў паведамленні.

Усяго на прэмію было намінавана 15 твораў — кнігі, газетныя публікацыі, а таксама два радыётворы ў эфіры Украінскага радыё і дакументальны фільм. За прэмію змагаліся журналісты, пісьменнікі, навукоўцы з Кіева, Львова, Адэсы, Чарнаўцоў, Сумскай вобласці і Запарожжа.

«Члены камісіі адзначылі журналісцкае майстэрства аўтара, які фактычна стварыў унікальны твор у галіне сучаснай украінскай журналістыкі», — адзначылі ў Дзяржкамтэлерадыё.

Прэмія імя Вячаслава Чарнавола за лепшы твор у галіне нон-фікшн і журналістыкі прысуджаецца штогод з 2004 года за творы, якія садзейнічаюць станаўленню гістарычнай памяці народа, яго нацыянальнай свядомасці і самасвядомасці. Прэмія ўручаецца ў дзень нараджэння Вячаслава Чарнавола — 24 снежня — у памеры 20 тысяч грыўняў.




## Новая прэмія за кнігі па-англійску

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця і Брытанская Рада абвясцілі аб пачатку конкурсу на новую літаратурную прэмію. На конкурс могуць быць прадстаўлены розныя мастацкія творы, у тым ліку зборнікі апавяданняў. У конкурсе могуць удзельнічаць кнігі, якія ўпершыню выйшлі на англійскай мове. Яны павінны быць апублікаваны ў перыяд з 15 лістапада 2021-га па 14 лістапада 2022 года. Заяўкі прымаліся да 30 лістапада.

Пераможца атрымае грашовы прыз у памеры 20 000 еўра за першае месца і 4 000 еўра за другое і трэцяе месцы. Аўтары і перакладчыкі падзеляць узнагароды пароўну.

## «Дзяды» Адама Міцкевіча ў Грузіі

Перфарматыўнае чытанне другой часткі «Дзядоў» Адама Міцкевіча — іх першая пастаноўка — прайшла ва Універсітэце тэатра і кіно імя Руставэлі ў Тбілісі. Астатнія часткі будуць пастаўлены ў наступным годзе.

Як паведаміў Інстытут Адама Міцкевіча, гэта таксама першы пераклад усяго твора А. Міцкевіча на грузінскую мову. Яго зрабілі перакладчыца польскай літаратуры Кэці Кантарыя і паэтка Ана Капаліяні. Рэжысёрам спектакля стаў Андро Энукідзэ, які паставіў, між іншым, «Вішнёвы сад» Антона Чэхава.




А. Энукідзэ адзначыў, што галоўны пасыл «Дзядоў» у тым, што «усе мы ў адным свеце: і мёртвыя, і жывыя, і тыя, каму яшчэ трэба нарадзіцца. У кожнай дзяржаве мы існуем, мы не перастаем быць». Ён таксама сказаў, што хоць грузіны разумеюць сам абрад памінання продкаў, бо ён таксама выконваўся ў грузінскіх вёсках і ў гарах, яны не разумеюць некаторых яго аспектаў. Яны не ведаюць, напрыклад, чаму на Дзяды дзеці знаходзяцца ў чыстцы толькі таму, што не пакутавалі пры жыцці. «У нас дыстанцыя да ўсяго гэтага, мы іграем гэты спектакль са здзіўленнем, якога не хаваем», — дадаў рэжысёр. Ён адзначыў, што яго пастаноўка спектакля адпавядае традыцыям грузінскага тэатра.

## Стагоддзе па смерці Марсэля Пруста

Сто гадоў таму, 18 лістапада 1922 года, памёр Марсэль Пруст, аўтар цыкла раманаў «У пошуках страчанага часу». Яго творы часам лічаць складанымі для чытання, але ўзнагароджваюць шматлікай увагай.

Пруст надзвычай неардынарны празаік. Яго творчасць мае рэпутацыю выкліку для амбіцыйных чытачоў. Даўжыня ягоных тэкстаў можа збянтэжыць. Многія крытыкі адзначалі, што Пруста ніколі не чыталі слова ў слова (за выключэннем карэктараў). Андрэ Жыд як выдавец адмовіўся ад рукапісу першага тома рамана Пруста, здзіўляючыся, як можна напісаць некалькі дзясяткаў старонак пра хлопчыка, які не можа заснуць. А ці многія сёння могуць «працiснуцца» праз некалькі старонак апісанняў сукенак спадарыні Сван ды іншых найпадрабязных апісанняў і разваг. Многім чытачам не ўдавалася прачытаць «У пошуках страчанага часу», але яны ведаюць пра Магдалену і ліпавае сочыва, каханую Альбэртыну і няшчаснае каханне Свана — і цэняць пісьменніка як класіка сусветнай літаратуры.

Марсэль Пруст нарадзіўся 10 ліпеня 1871 года. Паходзіў з заможнай сям'і. Бацька Пруста быў эпідэміёлагам, займаўся, сярод іншага, даследаваннем халеры ў Еўропе і Азіі. Маці Пруста — надзвычай разумная і начытаная жанчына — была адной з найважнейшых фігур у жыцці пісьменніка. Пруст



праводзіў доўгія летнія канікулы ў Ілье, які стаў узорам для выдуманага горада Камбрэ ў «У пошуках страчанага часу» (Ільер быў перайменаваны ў Ільер-Камбрэ да 100-годдзя пісьменніка). Ва ўзросце дзевяці гадоў у Пруста здарыўся першы сур'ёзны прыступ астмы — хвароба, якая будзе вызначаць усё яго жыццё, перыяды адноснага здароўя і актыўнасці, за якімі непазбежна ішлі доўгія месяцы, праведзеныя пісьменнікам у ложку. Аднак у юнацтве Пруст быў вельмі камунікабельным чалавекам, ён добра пачуваўся ў парыжскіх салонах, а назіранні, зробленыя ў часе афіцыйных абедаў, надавалі натхненне для творчасці.

Нягледзячы на хваробу, ён год праслужыў у французскай арміі, што было няўдалай спробай бацькі Пруста ўвесці ў яго жыццё нейкую дысцыпліну.

Пруст нідзе не працаваў і не выязджаў з кватэры бацькоў да іх смерці. Апошнія гады жыцця ён правёў у сваёй спальні, спаў днём і працаваў ноччу над сваім раманам, спраўляючы свайго жыцця. Калі першая частка «У пошуках страчанага часу» была закончаная, пачаў шукаць выдаўца. Пасля некалькіх адмоваў вырашыў самастойна выдаць раман з дапамогай невялікага выдавецтва. Нягледзячы на першыя крытычныя водзывы, другі том рамана быў апублікаваны ўжо ў вядомым выдавецтве і ў 1919 годзе атрымаў прэстыжную Ганкураўскую прэмію.

## Дзень крымскататарскай мовы і літаратуры

Меджліс крымскататарскага народа ў рамках Стратэгіі развіцця крымскататарскай мовы на 2022—2032 гады сумесна з дзяржаўнымі органамі Украіны ініцыюе заснаванне Дня крымскататарскай мовы і літаратуры. Пры вырашэнні гэтага пытання, адзначаецца ў паведамленні на сайце Меджлісу, вельмі важна выпрацаваць адзіную ўзгодненую пазіцыю і пачуць меркаванні крымскататарскіх і ўкраінскіх навукоўцаў, лінгвістаў, гісторыкаў, журналістаў, дэлегатаў Курултая крымскататарскага народа, лідараў грамадскай думкі: як тых, хто жыве на Крымскім паўвостраве, так і тых, хто жыве на мацерыковай частцы Украіны. Чакаюцца таксама прапановы ад прадстаўнікоў крымскататарскай дыяспары, міжнародных цюркскіх навуковых цэнтраў.

## Кніжны тралейбус

З 24 кастрычніка па 24 лістапада па вуліцах Вільні курсіраваў першы ў Літве «кніжны аўтобус» для дзяцей. У тралейбусах 7-га маршрута была прадстаўлена літаратура для дзяцей і падлеткаў. Наведвальнікі-пасажыры атрымалі магчымасць пазнаёміцца з сучаснай літаратурай для дзяцей і падлеткаў балтыйскіх аўтараў, сустрэцца з аўтарамі кніг, паслухаць гісторыі, якія даследуюць праблемы разнастайнасці і правоў чалавека, а таксама ацаніць сваё стаўленне да зменлівага свету.

## Паўмільёна за кнігу

Першае выданне рамана Джэйн Осцін «Эма» стала самым дарагім творам пісьменніцы, калі-небудзь прададзеным на аўкцыёне. Невядомы пакупнік з ЗША набыў асобнік твора за амаль паўмільёна даляраў і пажадаў, каб кніга засталася ў Вялікабрытаніі (пра што напісала The Guardian).

Лондансі гандляр рэдкімі кнігамі Пітэр Харынгтан заявіў, што гэта адзіная копія рамана Дж. Осцін, падпісаная выдаўцом, а не аўтарам. Выданне было некалі перададзена яе сяброўцы Эн Шарп.

Набыты трохтомнік будзе выстаўлены ў Chawton House у Гэмпшыры. Там знаходзіцца бібліятэка і навучальны цэнтр, які спецыялізуецца на жаночых творах на англійскай мове з 1600-га па 1830 год. Раней месцам арганізацыі быў дом брата Джэйн Осцін Эдварда. «Мы рады, што такі маштабны твор Джэйн Осцін зойме сваё месца сярод літаратурных скарбаў у нашай калекцыі», — сказала дырэктарка ўстановы Кэці Чайлдс.

Джэйн Осцін жыла з 1775-га па 1817 год. Памерла ў такім маладым узросце з-за хваробы Адысона. Яе самы вядомы раман «Гонар і прадузятасць» быў апублікаваны ў 1813 годзе.

Літаратурная Беларусь

Адрас электроннай пошты: litaraturnaja.bielarus@gmail.com

З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах: kamunikat.org і novychas.online.